

“Каб усе былі адно” (Ян 17, 21)

# Царква

№ 4 (55), 2007
16.10.07 — 31.12.07

КАЛЯДЫ

# Хрыстос нарадзіўся!



«Сапраўды Ты сьвяты і ўсесьвяты,
і няма меры велічы славы Тваёй.
Калі ж споўніўся час, Ты прамовіў да нас
праз самога Сына Твайго, якім Ты вякі стварыў.
Ён, узяўшы цела ад сьвятое Дзевы,
спустошыў Сябе, прыняўшы выгляд слугі,
стаўшыся падобным да цела нашай пакорлівасьці,
каб учыніць нас падобнымі да вобразу сваёй славы»

*З Анафоры Боскай Літургіі сьв. Базыля Вялікага*

## *У нумары:*





● *21.10.2007 г. Неапаль Папа Бенядыкт XVI і Патрыярх Бартламей I*

*21-23 кастрычніка 2007 г. у італійскім горадзе Неапаль праходзіла Міжрэлігійная Сустрэча «За сьвет без насільля: Рэлігіі і культуры ў дыялогу». Удзел у Сустрэчы ўзялі высокія прадстаўнікі хрысьціянскіх Цэркваў, а таксама сусьветных рэлігіяў.*

*У адкрыцьці Сустрэчы ўдзельнічаў Яго Сьвятасьць Папа Бенядыкт XVI. У нядзелю 21 кастрычніка Папа адслужыў сьв. Імшу, на якой прысутнічаў, сярод іншых ярархаў, Усяленскі Патрыярх Яго Сьвятасьць Бартламей I (гл. фота).*

# Слова Апостальскага Візітатара «ad nutum Sanctae Sedis» для грэка-каталікаў Беларусі

## на сьвята Раства Хрыстовага 2007 году і на Новы 2008 Год Гасподні

***Пачэсныя Айцы сьвятаслужыцелі!***
***Дарагія Манахі, Манахіні***
***і Браты Семінарысты!***
***Любыя ў Госпадзе Браты і Сёстры!***
***Паважаныя Сябры!***

*Прыйсьце Тваё, Хрысьце Божа,*
*было для нас ясным сьвітанкам.*
*Ты прасьвятліў усё стварэньне,*
*і таму ўсё жывое славіць Цябе.*
*Вячэрня Нараджэньня Хрыстовага*

Разам з усім хрысьціянскім сьветам у гэты сьвяточны час прыносім наш шчыры паклон веры Нованароджанаму Госпаду Богу і Збаўцы нашаму Ісусу Хрысту.

У нашых сэрцах ўважліва разважаем словы старажытнай Анафоры сьв. Базыля Вялікага, якой Царква моліцца ў гэтыя сьвяточныя дні, ды з пакорлівай сьмеласьцю і глыбокім захапленьнем Божай Міласэрнасьцю зьвяртаемся да Бога, нашага Айца:

*«Сапраўды Ты сьвяты і ўсесьвяты,*
*і няма меры велічы славы Тваёй.*
*Калі ж споўніўся час, Ты прамовіў да нас праз*
*самога Сына Твайго, якім Ты вякі стварыў.*
*Ён, узяўшы цела ад сьвятое Дзевы, спустошыў Сябе,*
*прыняўшы выгляд слугі, стаўшыся падобным да цела*
*нашай пакорлівасьці, каб учыніць нас падобнымі*
*да вобразу сваёй славы»*
*(З Анафоры Боскай Літургіі сьв. Базыля Вялікага).*

Таямніца Нараджэньня Ісуса Хрыста — гэта таямніца Ўцелаўленьня Спрадвечнага Сына Божага. Яна і сёньня прасьвятляе Віфлеемскім сьвятлом нашую штодзённую рэчаіснасьць. Неабходна, каб усе мы шырока адчынілі дзьверы нашых дамоў ды месцаў працы і вучобы на яснасьць і цеплыню гэтага Віфлеемскага сьвятла.

Калі ў час Калядных Сьвятаў і Новага Году Гасподняга віншуем адзін аднаго ды молімся за сваіх блізкіх, памятайма ў нашай малітве пра нашую Бацькаўшчыну Беларусь. Памятайма, што моцную, квітнеючую Беларусь магчыма пабудаваць толькі на фундаменце веры ў Бога. І гэта заданьне для вернікаў усіх хрысьціянскіх Цэркваў у Беларусі. Трэба толькі, каб мы разам з радасьцю прынялі Віфлеемскае сьвятло, і адважна і мужна ішлі разам па шляху веры, надзеі і любові.

У сулучнай малітве няхай дапамогуць нам натхнёныя словы народнага паэта, верніка нашае Царквы, Рыгора Барадуліна:.

*Божа, пашлі Беларусі*
*Ласку з Тваімі вачамі,*
*Сэрцы суцеш у скрусе,*
*Зьлітуйся над крывічамі [...].*

*Хай беларус беларуса*
*Будзе любіць як брата.*
*Сьветлым Імем Ісуса*
*Наша крывіцка хата.*

*«Маленьне за Беларусь» (1992).*

Дарагія Браты і Сёстры!

У сьвяточны час Раства Хрыстовага хочам глыбока асэнсаваць Евангельскую Праўду, што Нованароджаны Збавіцель сьвету прыносіць усім людзям добрай волі дар сапраўднага міру. Таму грэка-каталікі Беларусі шчыра моляцца, каб Новы 2008 Год Гасподні быў блаславёнай нагодай разам з братамі лацінскага абраду ды з праваслаўнымі і пратэстантамі сулучна сьведчыць, што Госпад Ісус Хрыстос нясе ўсім жыхарам Беларусі сьвятло няспыннай надзеі.

У Беларускай Грэка-Каталіцкай Царкве Год Гасподні 2008 будзе Годам Надзеі. Крыніцай надзеі застаецца для ўсіх хрысьціянаў Слова Божае. 2008 год няхай стане для ўсіх нас чарговым крокам падрыхтоўкі да Юбілею 500-годдзя выданьня Бібліі Францішка Скарыны, які будзем сьвяткаваць у 2017 годзе.

Гэтаксама Слову Божаму будзе прысьвечаны сусьветны Сінод Біскупаў у Рыме ўвосень 2008 году. У гэтым кантэксьце хачу раз яшчэ паўтарыць: «*Штодзённае чытаньне Слова Божага на роднай мове няхай будзе першым крокам на шляху нашага хрысьціянскага сьведчаньня*». Няхай Дух Сьвяты дазволіць нам зразумець, што сапраўды «Слова Божае — гэта крыніца надзеі».

Хай Слова Божае стане заахвочваньнем для ўсіх Беларусаў, як на Бацькаўшчыне, так і па-за яе межамі, быць сьведкамі надзеі.

Усім сьвятарам, манахам, манахіням, семінарыстам, усім вернікам нашае Царквы ды ўсім нашым Сябрам жадаем вялікага супакою сэрца, радасьці і надзеі.

**Усіх вас віншуем**
**з Божым Нараджэньнем і Новым**
**2008 Годам Гасподнім і вітаем сьвяточным воклічам:**

*Хрыстос нарадзіўся — Яго славім!*

Менск, Раства Хрыстова 2007 году.

*+ Архімандрыт СЯРГЕЙ (Гаек)*

# Сьвяткаваньне 90 гадоў Фацімскіх Зьяўленьняў

***З нагоды 90-годдзя Зьяўленьняў Багародзіцы ў Фаціме, з 12 па 14 кастрычніка 2007 г. у гэтым партугальскім мястэчку прайшлі ўрачыстасьці, якія ў якасьці Папскага Легата ўзначаліў Дзяржаўны Сакратар Сьвятой Сталіцы (Ватыкана) кардынал Тарчызіо Бэртонэ.***

На юбілейных урачыстасьцях Каталіцкую Царкву ў краінах былога СССР прадстаўлялі: архібіскуп Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч (новапрызначаны на Мінска-Магілёўскую катэдру), Уладыка Лявон (Малы) — дапаможны біскуп Львоўскай Архідыяцэзіі лацінскага абраду, Уладыка Дыянісій (Ляховіч) — курыяльны біскуп Вярхоўнага Архібіскупства УГКЦ і Архімандрыт Сяргей (Гаек) — Апостальскі Візітатар БГКЦ.

Напярэдадні ўрачыстасьцяў, з 9 па 12 кастрычніка, у Фаціме прайшоў Міжнародны кангрэс на тэму «Фаціма для XXI стагоддзя». Чатыроxдзённае паседжаньне было прысьвечана Зьяўленьням Багародзіцы і Яе Фацімскаму Пасланьню, іх верагоднасьці і актуальнасьці. Кангрэс недвухсэнсоўна сьцьвердзіў актуальнасьць Фацімскага Пасланьня у наш час. У сваіх Зьяўленьнях у Фаціме Найсьвятая Дзева Марыя заклікала да пакаяньня, што таксама зьяўляецца галоўнай часткаю Евангельскага дабравесьця. Першыя словы, з якімі Хрыстос зьвярнуўся да сваіх слухачоў, былі: «Пакайцеся і верце ў Евангельле». Як сказала ў 1996 г. архібіскупу Тадэвушу Кандрусевічу сястра Люцыя, адна са сьведкаў Зьяўленьня Багародзіцы, слова «Расея» з фацімскіх Зьяўленьняў сёньня трэба чытаць як «увесь сьвет», бо грэх ня мае нацыянальнасьці і ўсе людзі маюць патрэбу ў пакаяньні. (Тую ж самую інтэрпрэтацыю с. Люцыя паўтарыла і кардыналу Казіміру Сьвёнтэку). Жахлівыя падзеі XX стагоддзя не павінны трапіць у забыцьцё: з іх неабходна зрабіць высновы, каб не паўтараць памылак мінулага.

12 кастрычніка Папскі Легат кардынал Тарчызіо Бэртонэ асьвяціў у Фаціме новы касьцёл у гонар Найсьвяцейшай Тройцы. Гэта вялізны храм, пабудаваны ў форме кола дыяметрам 125 м і вышынёю 21 м (аўтарам праекту быў грэцкі праваслаўны архітэктар), разьлічаны на 9.000 вернікаў. Прэзьбітэрый храму ўпрыгожвае вялікая мазаіка, на якой паказаны Нябесны Ерусалім, а таксама фігура Маці Божай. У храм вядуць 13 парталаў: цэнтральны сімвалізуе Хрыста, іншыя — 12 апосталаў. Побач з цэнтральным парталам знаходзіцца пано, складзенае з 20-ці таямніцаў сьвятога Ружанца. У ніжнім касьцёле ёсьць тры капліцы Паяднаньня для споведзі з 46-ю канфесіяналамі. Перад храмам усталяваны скульптуры Пія XII, Паўла VI і Яна Паўла II, а таксама крыж з Расьпяцьцем вышынёю 27 м.

У юбілейных урачыстасьцях у Фаціме бралі ўдзел 150 пілігрымаў з Расеі (католікаў двух абрадаў і праваслаўных). 11 і 13 кастрычніка Мітрапаліт Кандрусевіч узначаліў малітву Ружанца ў капліцы Зьяўленьняў і працэсію на галоўнай плошчы Фацімскага Санктуарыя, а 14 кастрычніка а 5-й гадзіне раніцы ў капліцы Зьяўленьняў сьв. Імшу на расейскай мове служылі сьвятары з Расеі на чале



з архібіскупам Тадэвушам Кандрусевічам. Архіпастыр падзякаваў Багародзіцы за заступніцтва і за ўсё, што яму ўдалося зрабіць у якасьці кіраўніка Архідыяцэзіі Маці Божай у Маскве. Ён таксама ўзгадаў, што 16 гадоў таму распачаў сваё служэньне ў Расеі пілігрымкаю ў Фаціму, дзе ўпершыню сустрэўся з сястрою Люцыяй (усяго ў іх было 3 сустрэчы). «Сімвалічна, што тут, у Фаціме, я практычна завяршаю сваё служэньне ў Расеі і распачынаю новае служэньне на чале Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі», — сказаў Уладыка Тадэвуш. Ён даручыў Царкву у Расеі і ў Беларусі заступніцтву Маці Божай Фацімскай.

У тых жа юбілейных урачыстасьцях у Фаціме ўдзельнічалі амаль 200 грэка-каталіцкіх пілігрымаў — украінцаў, што працуюць у Партугаліі і Гішпаніі. Большасьць з іх прыбыла з гішпанскай дыяцэзіі Ўэльва. Сярод іх былі і беларусы.

У нядзелю 14 кастрычніка ў візантыйскай капліцы міжнароднага цэнтра «Domus Pacis» Уладыка Дыянісій узначаліў Боскую Літургію ў саслужэньні Архімандрыта Сяргея (Гаека) і двух украінскіх душпастыраў з Гішпаніі і Партугаліі. Згодна з Фацімскім Заклікам Багародзіцы пілігрымы з Украіны і Беларусі маліліся у духу пакаяньня за грахі камунізму.

***П. С.*** *(пры выкарыстаньні матэрыялаў Catholic.by)*

# Сьвяткаваньне Сьвятамучаніка Язафата Архібіскупа Полацкага

**ПОЛАЦАК**



Сёлетняе сьвяткаваньне мучаніцкае сьмерці сьв. Язафата ў Полацку мела іншы фармат, чым звычайна. Яно было арганізавана ў выглядзе малітоўнага спатканьня, на якое, нягледзячы на няспрыяльнае надвор'е, прыбыло каля 25 чалавек гасьцей. Сярод іх былі ўдзельнікі менскага міжпарафіяльнага хору «Прасфара́», а таксама сёстры Базыльянкі з Украіны, на чале са сваёй Правінцыйнай настаяцелькай маці Маргарэтай Гутнік.

Увечары 10 лістапада, госьці разам з мясцовымі парафіянамі, маліліся ў Барысаглебскім манастыры Вялікую Вячэрню. Пасьля Вячэрні ўсіх чакала вячэра і традыцыйнае для сьвяткаваньняў у Полацку начное чуваньне. Позьнім вечарам, пры адным толькі лагодным сьвятле запаленых перад іконамі лампадаў, стомленыя пілігрымы маліліся ў манастырскім храме Ісусавай малітвай. Раніцай наступнага дня была Ютрань, якую сьпявалі сёстры, а пасьля яе — сьвяточная Боская Літургія, на якой сьпяваў менскі хор «Прасфара́».

Сьвяточны абед і супольная размова завяршалі сьвяткаваньне. Пад час размовы сёстры падзяліліся ўражаньнямі ад сваёй пілігрымкі на Беларусь, дзе, уласна, узяла свой пачатак іхняя манаская Супольнасьць. Менскія пілігрымы распавялі пра досьвед свайго царкоўнага служэньня, адным з выяваў якога стала зьяўленьне царкоўнага хору. Дарэчы, недзе месяц таму, хор узяў сабе назву «Прасфара́». Ва ўсходнехрысьціянскай традыцыі так называецца літургічны хлеб, які ёсьць сімвалам еднасьці.

*Н. У.*

**ВІЦЕБСК**

12 лістапада 2007 года ў Віцебску, у храме рыма-каталіцкай парафіі Сьвятога Духа (будова храму яшчэ працягваецца) а 18 гадзіне адбылася важная падзея. Сьвятамучанік Язафат, змагар за еднасьць Царквы, сабраў разам на сьвяткаваньне вернікаў усходняга і заходняга абрадаў. Такое штогадовае сьвяткаваньне сталася ўжо традыцыяй. Сьв. Язафат зьяуляецца афіцыйным апекуном Віцебскай рыма-каталіцкай дыяцэзіі, якая носіць яго імя. У гэтым годзе, нягледзячы на сьнег, вецер і холад (храм пакуль ня мае ацяпленьня), нягледзячы на стомленасьць пасьля працоўнага дня, на пачатак Боскай Літургіі храм быў запоўнены людзьмі.

Сьвяткаваньне распачалася сьпевамі рэлігійных гімнаў «Божа, славім мы Цябе» і «Уладыка, Ойча» у выкананьні прадстаўнікоў хору віцебскіх грэка-каталіцкіх парафіяў пад кіраўніцтвам матушкі Інэсы Грышан. У хоры сьпявалі таксама віцебскія мастакі І. Дураў і Э. Галустаў ды іншыя вернікі, сьпеў гучаў урачыста і прыгожа.

На самым пачатку Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей, які ўзначаліў урачыстасьць, асьвяціў абраз сьв. Язафата. Гэты абраз упрыгожыў сьцяну галоўнага алтара. Потым з прамовай пра жыцьцё і мучаніцкую сьмерць сьв. Язафата да вернікаў зьвярнуўся пробашч рыма-каталіцкай парафіі Сьвятога Духа а. Сяргей Сурыновіч (гл. тэкст далей). Ягоныя словы наблізілі прысутным вобраз сьвятамучаніка Язафата і ягоны час і далі магчымасьць кожнаму зразумець, што рухала ім у ягонай дзейнасьці аж каб прыняць пакуты мучаніцкай сьмерці. У саслужэньні Боскай Літургіі ўдзельнічалі, апрача трох грэка-каталіцкіх сьвятароў, яшчэ чацьвёра рыма-каталіцкіх сьвятароў з парафіяў Віцебскага дэканату.

Сярод вернікаў знаходзіліся таксама так зв. асобы з абмежаванымі магчымасьцямі, якім дапамаглі прыбыць у храм добраахвотныя памочнікі — валанцёры з розных парафіяў.

На заканчэньне а. Зміцер Грышан, пробашч віцебскіх грэка-каталіцкіх парафіяў, падзякаваў за ўдзел усім прысутным і выказаў надзею, што духоўнае сяброўства паміж вернікамі двух абрадаў будзе пастаянна ўмацоўвацца.

Сьвяткаваньне працягнулася яшчэ ў сядзібе грэка-каталіцкай парафіі Уваскрасеньня Хрыстовага, дзе была арганізаваная сустрэча духавенства. Тыя сьвятары, што па прычыне іншых абавязкаў не змаглі далучыцца да Еўхарыстыі ў храме Сьвятога Духа, тут разьдзялілі радасьць сьвята. Пасля нешпараў (вячэрняй малітвы гадзін паводле заходняй літургічнай традыцыі)



ўсе частаваліся стравамі, прыгатаванымі вернікамі парафіі. Так сьвяткаваньне ў гонар сьв. Язафата чарговы раз паказала, што сяброўства і добрасуседства будуюцца сумеснай малітвай і гасьціннасьцю.

*Сьвятлана Пчолкіна, Віцебск*

**АНТВЭРПАН**

У нядзелю 11 лістапада 2007 г. у г. Антвэрпан беларускія грэка-католікі Бельгіі адзначылі парафіяльнае сьвята Сьвятамучаніка Язафата Полацкага, Заступніка Беларусі.

Урачыстую Боскую Літургію ў беларускай царкве ў Антвэрпане ўзначаліў Апостальскі Візітатар для беларусаў у замежжы Айцец Мітрат Аляксандар Надсан. Ягоны візіт быў вялікай радасьцю для ўсіх удзельнікаў парафіяльнага сьвята.

З Вялебным Айцом Візітатарам Боскую Літургію спаўслужылі пробашч антвэрпанскай парафіі а. Ян Майсейчык, пробашч галандзскай грэка-каталіцкай парафіі ў Малдэне а. Тон Сіп і пробашч парафіі Найсьвяцейшага Сэрца Ісуса а. Язэп Гендрыкс. Разьдзяліць урачыстасьць з беларусамі прыехаў прафесійны царкоўны хор з місійнае грэка-каталіцкае парафіі ў Дронгене «Анёльскі сабор», які ўзвышанымі мелодыямі духоўнай музыкі дапамог вернікам больш глыбока пережыць Боскую Літургію. Акрамя шматлікіх беларусаў, што прыехалі на Сьвята з розных гарадоў, у набажэнстве таксама прынялі ўдзел бельгійцы, сярод якіх былі доктар багаслоўя праф. Гэлена Мардага, іканограф Павал Дэ Гроот і прадстаўнікі фламандзскага парафіяльнага камітэту па дачыненьнях з дзяржавай.

Пасьля Боскай Літургіі адбылася сьвяточная трапеза, якую ласкава прапанавалі для ўсіх удзельнікаў набажэнства беларускія жанчыны.

*Я. М.*

## ГАРОДНЯ: ПІЛІГРЫМКА Ў СЬВІСЛАЧ

Шмат на Беларусі гарадоў, мястэчак і маленькіх вёсачак, вядомых сваімі гістарычнымі і архітэктурнымі помнікамі, славутымі постацямі.

Вось і мы, група вернікаў парафіі Маці Божае Фацімскае, вырашылі адведаць адметны куток Гарадзенскай вобласьці — мястэчка Сьвіслач, што ляжыць непадалёк Белавежскай пушчы. Для паездкі абралі дзень 13 кастрычніка, на які прыпалі падвойныя ўгодкі — 90 гадоў ад апошняга Зьяўленьня Маці Божай у Фаціме, а таксама 123 угодкі нараджэньня а. Баляслава Пачопкі, знакамітага беларускага дзеяча і параха ўніяцкае парафіі ў Бабровічах на Палесьсі. Менавіта ў Сьвіслачы, дзе будучы сьвятар працаваў у Беларускай настаўніцкай семінарыіі ў 1916-1918 гадах, ён стварыў першую граматыку беларускай мовы.

Сабраўшыся апоўдні ў суботу і памаліўшыся аб шчасьлівым падарожжы, мы выправіліся ў дарогу. Ружанец, духоўныя разважаньні пад кіраўніцтвам нашага душпастыра — і неўзабаве мы прыбылі ў Сьвіслач, дзе нас ветліва сустрэў пробашч айцец Міраслаў. У касьцёле а. Андрэй Крот адслужыў Боскую Літургію, на якой прысутнічала група мясцовых жыхароў — вернікаў Грэка-Каталіцкай Царквы. Хіба ўпершыню ад часу скасаваньня Уніі ў гэтым мястэчку адбылася Боская Літургія ва ўсходнім абрадзе і на роднай мове. Пасля службы а. Міраслаў ветліва прадаставіў нам памяшканьне для пачастунку.

Крыху адпачыўшы, мы скарысталіся з прапановы мясцовых краязнаўцаў і зрабілі невялічкую экскурсію па мястэчку і наваколльі. Убачылі мы славутую Сьвіслацкую гімназію (у 1916-1918 гадах — настаўніцкая семінарыя), пабудаваную яшчэ ў XVIII стагоддзі, у якой навучалася шмат знакамітых людзей, сярод якіх і наш нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі, які вучыўся тут з 1847 па 1852 год. Пабывалі мы




таксама і на могілках, на магіле старэйшага брата Кастуся — Віктара Каліноўскага, дзе памаліліся за супакой ягонай душы. Як вядома, Віктар аказаў вялікі ўплыў на фармаваньне патрыятычных поглядаў Кастуся, абудзіў у яго цікавасьць да гісторыі і накіраваў на шлях змаганьня за вызваленьне роднага краю. На жаль, сам Віктар памёр ад сухотаў незадоўга да паўстаньня, 25 кастрычніка 1862 году, у фальварку Якушоўка, што недалёка ад Сьвіслачы, куды мы і накіраваліся пасьля. У Якушоўцы сёньня акрамя крыжа, усталяванага краязнаўцамі на грамадзкія ахвяраваньні, нічога не нагадвае аб тым, што тут калісьці была сядзіба Каліноўскіх.

Памаліўшыся ля крыжа за нашу Бацькаўшчыну Беларусь, мы адправіліся ў зваротны шлях, поўныя ўражаньняў і ўдзячнасьці нашым сябрам са Сьвіслачы за цікавы экскурс у родную гісторыю. Хочацца таксама выказаць падзяку айцам-рэдэмптарыстам з парафіі Найсьвяцейшага Адкупіцеля ў Гародні за іх дапамогу ў арганізацыі нашага падарожжа. *Слава Богу за ўсё!*

*Андрэй Рабушкін, Гародня*

## ІВАЦЭВІЧЫ: СУСТРЭЧА «СЯБРОЎ КАНЫ»

Так сталася, што сёлета не было ў Беларусі сэсіі «Каны» — адмысловай праграмы духовай фармацыі сужэнстваў, якую праводзіць Супольнасьць *Chemin Neuf*. Таму і кола «сяброў Каны» не павялічылася. Але, калі мы атрымалі блаславеньне Апостальскага Візітатара на ўік-энд Каны ў Івацэвічах, выявілася, што дзесяці дзён для большасьці з нас дастаткова, каб падрыхтавацца, уладкаваць свае штодзённыя справы і знайсьці час для спатканьня 3-4 лістапада 2007 г.

На ўік-энд «Каны» прыехалі сем'і з Берасьця, Менску, сужэнства Ахматавых з Барысава (Юры — на наступны дзень пасьля хірургічнай аперацыі), а таксама а. Алесь Шаўцоў з жонкай Тацянай з Гародні. Гасьціннымі гаспадарамі сустрэчы былі сем'і Гарчаковых і Ракоўскіх з Івацэвічаў.

Крыніцай разважаньняў на сустрэчы паслужылі два артыкулы: «Небясьпека актывізму» а. Хассо Баера і «Варта бласлаўляць» а. Анджэя Бжазоўскага.

Толькі едучы ў Івацэвічы мы сьцямілі: апякункамі гэтага спатканьня будуць біблійныя сёстры Марта і Марыя. Паспрабуем разам паразважаць і памаліцца, каб навучыцца лепш спалучаць служэньне Марты і служэньне Марыі у сужэнстве, у Царкве ды ў грамадзтве!

Мы з радасьцю маліліся Боскую Літургію і Вячэрню, мелі час на асабістую і сужэнскую малітву, а таксама на Споведзь. Сям'я Ахматавых склала сьведчаньне пра блаславенства і не-блаславенства, а Шаўцовы распавялі, як ім даводзіцца аб'ядноўваць служэньні Марты і Марыі ў штодзённым жыцьці.

У нядзелю 4 лістапада мы маліліся Боскую Літургію разам з вернікамі Івацэвіцкай парафіі і глядзелі фільм «Супольнасьць *Chemin Neuf* у Кіншасе».

У парафіяльным доме ў Івацэвічах нам было вельмі ўтульна. Пробашчу — а. Ігару і ўсёй Івацэвіцкай парафіі — «Вялікі дзякуй»!

Гэта вялікі Божы дар — ісьці разам па жыцьці, сустракацца з сябрамі. А мы — сапраўды сябры, якіх блізка пазнаёміла і паяднала «Кана».

*Сяргей Панасевіч, Берасьце*

## ДЗЯДЫ Ў АЛЬБЯРЦІНЕ

2 лістапада адзначаецца на Беларусі традыцыйнае сьвята Дзядоў. У Рыма-Каталіцкай Царкве гэта Ўспамін усіх памерлых вернікаў, таму ў гэты дзень рыма-католікі прыходзяць на могілкі, каб памаліцца за памерлых і асьвяціць магілы сваіх блізкіх. У візантыйскім абрадзе гэты дзень прыпадае блізка Зьмітраўскай бацькоўскай задушнай суботы. Таму вернікі БГКЦ прытрымліваюцца традыцыі сьвяткаваньня Дзядоў і запрашаюць сьвятароў на могілкі, каб адслужылі Малую паніхіду ды асьвяцілі магілкі памерлых сваякоў, знаёмых і сяброў.

З практычных прычынаў малітву за памерлых у слонімскай парафіі перанесьлі на нядзелю 4-га лістапада. У касьцёле, што на могілках у Альбярціне, а. Аляксандр Шаўцоў адслужыў Боскую Літургію за памерлых сваякоў слонімскіх вернікаў, а пасьля на могілках памаліўся разам з парафіянамі Малую паніхіду за памёрлых манахаў-езуітаў і манахінь, якія працавалі ў Альбярцінскай Ўсходняй місіі ў міжваенны час. Іхнімі магілкамі рупліва апякуецца верніца Слонімскай парафіі сп. Яўгенія Дзмітрыеўна. Пасьля малітвы сп. Яўгенія запрасіла а. Аляксандра з матушкай Тацянай ды іншых вернікаў, якія прыехалі з па-за Слоніма на традыцыйную вячэру.

*А. Ш.*

# НОВЫЯ СЬВЕДКІ ВЕРЫ І ВЕРНАСЬЦІ

## Блаславёная Цэліна Бажэнцкая – родам з Беларусі



Беатыфікацыя манахіні Цэліны Бажэнцкай, заснавальніцы Кангрэгацыі Сёстраў Уваскрасеньня Гасподняга, адбылася 27 кастрычніка 2007 у рымскай базыліцы сьв. Яна на Латэране.

Цэліна Бажэнцкая (дзявочае прозьвішча — Хлудзінская) нарадзілася 29 кастрычніка 1833 г. у маёнтку Антовіл каля Воршы. У 1853 г. выйшла замуж за Язэпа Бажэнцкага і пасялілася ў маёнтку Абрамбшчызна каля Гародні. Нарадзіла чацьвёра дзяцей, двое з якіх памерлі ў дзіцячым узросьце. У сям'і Бажэнцкіх панаваў глыбокі хрысьціянскі і патрыятычны дух, а ў маёнтку Абрамбшчызна атрымлівалі дапамогу паўстанцы Кастуся Каліноўскага, асабліва параненыя. За гэта Цэліна з маленькай дачкой Ядзьвігай на руках была арыштаваная і ўвязьненая царскай паліцыяй.

Пасьля сьмерці мужа ў 1875 г. Цэліна з дзьвюма дочкамі выехала ў Рым.

Там, у 1882 годзе пад духовым кіраўніцтвам а. Пятра Семяненкі, генеральнага суперыёра Айцоў Уваскрасенцаў, заснавала Кангрэгацыю Сёстраў Уваскрасеньня Гасподняга, заданьнем якой было духовая аднова жанчын праз навучаньне і хрысьціянскае выхаваньне дзяўчат. У 1891 г. Маці Цэліна адкрыла ў Кентах першы манастыр на польскіх зямлях. У 1896 г. распачала місійную працу ў Балгарыі сярод католікаў візантыйскага абраду, а пасьля ў 1900 г. — у Злучаных Штатах.

Памерла Маці Цэліна ў Кракаве 26 кастрычніка 1913 г., пахаваная ў Кентах каля Кракава. Беатыфікацыйны працэс Маці Цэліны быў распачаты па ініцыятыве Папы Пія XII у Рыме ў 1944 г. Дэкрэт пра гераічнасьць цнотаў падпісаў Ян Павел II у 1982 г. У 2002 г. у Кракаве праводзіўся працэс, які датычыўся меркаванага аздараўленьня Андрэя Мехежынскага-Віктара, праўнука Маці Цэліны. 16 сьнежня 2006 г. Бенядыкт XVI падпісаў дэкрэт, які пацьвердзіў аздараўленьне, якое адбылося праз заступніцтва манахіні Цэліны.

Урачыстую сьв. Імшу, на пачатку якой меў месца чын беатыфікацыі, ад імя Сьвятога Айца Бенядыкта XVI ўзначаліў Прэфект Кангрэгацыі па справах сьвятых, партугальскі кардынал Жазэ Сараіва Марцінш. З ім саслужылі кардыналы: Каміла Руіні з Рыму, Эдмунд Шока з Ватыкану (бацька якога родам з Беларусі), Станіслаў Дзівіш і Францішак Махарскі з Кракава, Генрык Гульбіновіч з Вроцлава, новаабвешчаны кардынал Станіслаў Рылка з Папскай Рады па справах сьвецкіх вернікаў ды 10 біскупаў. Сярод спаўслужыцеляў сьв. Імшы былі Біскуп Гарадзенскі Аляксандар Кашкевіч, Апостальскі Візітатар БГКЦ Архімандрыт Сяргей Гаек, ды каля 100 сьвятароў, у тым ліку з Беларусі і Расеі.



● 27.10.2007 г. Рым Базіліка сьв. Яна на Латэране. Ярархі ўдзельнічаюць у беатыфікацыі бл. Цэліны

Ва ўрачыстасьці разам са шматлікімі пілігрымамі з Польшчы, ЗША, Балгарыі, удзельнічалі некалькі групаў пілігрымаў з Беларусі, асабліва з Гародні і Наваполацку.

Падчас аудыенцыі 31 кастрычніка 2007 г. Папа Бенядыкт XVI прывітаў сёстраў Кангрэгацыі Уваскрасеньня Гасподняга і ўдзельнікаў беатыфікацыі і сказаў да іх наступныя словы: «Блаславёная Цэліна зьяўляецца для вас узорам выкананьня штодзённых абавязкаў з верай, любоўю і адданьнем волі Божай».

Маці Цэліна Бажэнцкая, народжаная ў Беларусі, была жонкай, маці, удавою і манахіняй. Прайшла праз усе этапы жыцьця жанчыны. Таму для ўсіх жанчынаў яна можа быць узорам клопату пра хрысьціянскае і патрыятычнае выхаваньне маладога пакаленьня.

С. Р.

# Заснавальнік Айцоў Марыянаў

Заснавальнік Ордэну Айцоў Марыянаў а. Станіслаў Папчынскі быў абвешчаны блаславёным 16 верасьня 2007 г. на плошчы перад базылікай у Ліхені (якая зьяўляецца найбольшым храмам у Польшчы).

Урачыстую сьв. Імшу ўзначаліў Папскі Легат, Дзяржаўны Сакратар Сьвятой Сталіцы кардынал Тарчызіо Бэртонэ. Ён прачытаў беатыфікацыйную формулу на латыні. Па-польску тэкст пераклаў для вернікаў біскуп Веслаў Мерынг, Ардынарый дыяцэзіі Врацлавак, на тэрыторыі якой знаходзіцца Ліхень.

«Нашай Апостальскай Уладай Дазваляем, каб з гэтай пары Пачэснаму Слузе Божаму Станіславу Папчынскаму, які прысьвяціў сваё жыцьцё малітве за памёрлых ды навучаньню хрысьціянскага люду, належаў тытул блаславёнага,» — напісана у Папскай бульле. Дзень штогадовага літургічнага ўспаміну Бл. ераманаха Станіслава прызначаны на 18 траўня.

У момант абвяшчэньня а. Станіслава Папчынскага блаславёным быў адкрыты на франтоне базылікі вялікі беатыфікацыйны абраз новага Блаславёнага. Ва ўрачыстай працэсіі, у якой удзельнічалі прадстаўнікі краінаў, у якіх працуюць марыяне, да алтара прынеслі рэлквіяр з мошчамі новага Блаславёнага.

У працэсіі з мошчамі ішлі таксама бацькі шасьцігадовага хлопчыка з-пад Элку, аздараўленьне якога ва ўлоньні маці — пасьля таго як лекары вызналі перад гэтым плод мёртвым — было прызнана цудам, якое сталася праз заступніцтва айца Папчынскага.



Урачыстасьць сабрала каля 80 тысяч вернікаў. У ёй удзельнічалі таксама Прэзідэнт Польшчы Лех Качыньскі. Сярод 65 ярархаў былі прысутныя між іншымі Апостальскі Нунцый у Польшчы архібіскуп Юзаф Кавальчык, Прымас Польшчы Юзаф Глемп, кардынал Франк Радэ з Ватыкану, а таксама біскупы з польскіх і замежных дыяцэзіяў, у якіх служаць айцы-марыяне. З Беларусі прысутнічалі ганаровыя госьці: кардынал Казімір Сьвёнтэк, Біскуп Гарадзенскі Аляксандар Кашкевіч, Біскуп Віцебскі Ўладзіслаў Блін, Апостальскі Адміністратар Мінска-Магілёўскай Архідыяцэзіі Біскуп Антоні Дзям'янка і Апостальскі Візітатар для грэка-каталікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек), пробашч мінскага касьцёла сьвв. Сімона і Алены кс. Уладзіслаў Завальнюк.



Сярод міжнароднай супольнасьці пілігрымаў было некалькі соцен вернікаў з Беларусі. Клір БГКЦ прадстаўляў а. Ігар Кандрацьеў з Берасьця, а адзін з вернікаў берасьцейскай парафіі ўдзельнічаў у працэсіі з ахвярным дарамі.

Перад пачаткам сьв. Імшы было малітоўнае чуваньне пілігрымаў, у рамках якога хор грэка-каталіцкай парафіі з Берасьця сьпяваў па-беларуску фрагмент Акафіста да Багародзіцы.

Народжаны ў 1631 г. у Падэгродзю каля Старага Сонча ў сялянскай сям'і, Ян Папчынскі ў маладосьці ўступіў у ордэн піяраў, дзе прыняў імя Станіслаў ад Ісуса і Марыі. Згоршаны легкаважным стаўленьнем братоў да манаскіх шлюбаў, пасьля 16 гадоў жыцьця ў Ордэне пакінуў піяраў, каб у 1673 годзе заснаваць новую супольнасьць, якой даручыў распаўсюджваць марыйную пабожнасьць. Памёр 17 верасьня 1701 г. у Гуры Кальварыі каля Варшавы.

Айцец Станіслаў Папчынскі зьяўляецца чацьвёртым блаславёным з Ордэна Марыянаў. Раней на алтар былі вынесеныя: літоўскі архібіскуп Вільні Юры Матулевіч (Матулайціс), які на пачатку ХХ стагоддзя аднавіў Ордэн Марыянаў, прырэчаны на зьнікненьне царскімі захопнікамі, а таксама два беларуса мучаніка часоў ІІ Сусьветнай вайны — айцы Юры Кашыра і Антон Ляшчэвіч з Росіцы.

*Паводле КАІ (Варшава) і www.stanislawpapczynski.org*

# 498 новамучанікаў гішпанскіх

Самая вялікая па колькасьці блаславёных у гісторыі Каталіцкай Царквы беатыфікацыя мела месца 28 кастрычніка 2007 г. на Плошчы сьвятога Пятра ў Ватыкане. У рамках урачыстай службы, якую ад імя Сьвятога Айца Бенядыкта XVI ўзначаліў Прэфект Кангрэгацыі па справах сьвятых, партугальскі кардынал Жазэ Сараіва Марцінш, было праслаўлена 498 мучанікаў, ахвяраў перасьледу Каталіцкай Царквы ў Гішпаніі ў 30-ых гадах ХХ стагоддзя.

Сярод 498 новамучанікаў — два біскупы. Астатнія ж гэта пераважна прадстаўнікі мужчынскіх і жаночых манаскіх ордэнаў і кангрэгацый, а таксама 24 дыяцэзіяльныя святары, 1 дыякан, 1 субдыякан, 1 семінарыст і 7 сьвецкіх вернікаў. Разам з 493 гішпанцамі да славы алтара былі ўзьнесеныя 5 іншаземцаў, сярод якіх айцец Жазэ Лопес Пітэйра, аўгустыянін, які стаў першым блаславёным з Кубы. На момант сьмерці ім было ад 16 да 78 гадоў. Наймалодшаму блаславёнаму Федэрыка Коба Суарэсу было 16 гадоў, калі ён быў забіты ў 1936 г. у Мадрыдзе.

Група з 498 мучанікаў, якія былі ўзьнесеныя да славы алтара 28 кастрычніка, — гэта толькі невялікая частка з больш чым 10 тысячаў чалавек, якія загінулі падчас рэлігійнага перасьледу ў Гішпаніі у 30-х гадах мінулага стагоддзя.

Гістарычныя факты сьведчаць пра тое, што перасьлед Каталіцкай Царквы ў Гішпаніі распачаўся ўжо ў траўні 1931 г., калі пасьля падзеньня манархіі была абвешчана рэспубліка. З гэтага моманту з ініцыятывы рэспубліканскага ўраду была прынятая канцэпцыя сьвецкай дзяржавы. Публічная рэлігійная дзейнасьць была забаронена на тэрыторыі ўсёй краіны, яе асобныя формы былі абмежаваныя. З дапамогай шырокай антыклерыкальнай прапаганды і паклёпніцкай кампаніі супраць Царквы была зроблена спроба зьнішчыць багатую рэлігійную традыцыю гішпанскага народу.

*Працяг на с.18*

# У Расеі асьвячаны першы з 1917 г. грэка–каталіцкі храм



19 кастрычніка 2007 году завяршыўся душпастырскі візіт Найдастойнага Уладыкі Сьцяпана (Мянька), Экзарха Данецка-Харкаўскага, у Расею. Падчас свайго візіту, які адбыўся з блаславеньня Першаярарха УГКЦ Кардынала Любаміра (Гузара), Уладыка Сьцяпан наведаў Новакузьнецк, Пракоп’еўск ды Кемерава, дзе сустракаўся з вернікамі і духавенствам. Галоўным пунктам візіту быў горад Новакузьнецк, што на Кузбасе, дзе 14 кастрычніка 2007 г. быў асьвячаны першы ў Расеі з часоў кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. грэка–каталіцкі храм.

Асьвячэньне адбылося на сьвята Пакрова Багародзіцы (паводле юліянскага каляндара). Чын асьвячэньня Уладыка Сьцяпан зьдзейсьніў супольна з Найдастойным Уладыкам Іосіфам (Вертам), Ардынарыем для католікаў візантыйскага абраду на тэрыторыі Расейскай Фэдэрацыі. Ва ўрачыстасьці ўдзельнічалі таксама Апостальскі Дэлегат для грэка-католікаў Казахстана і Сярэдняй Азіі протаярэй Васіль Гавера, грэка-каталіцкае духавенства з усіх 14 парафіяў Расеі, сьвятары лацінскага абраду з Новасібірска, Омска, Кемерава, Томска і Бійска.

Урачыстасьць распачалася з асьвячэньня алтара, у якім былі зьмешчаныя рэліквіі блаславёнага Пятра (Вергуна), мучаніка з Сібіры, і сьвятога Яна Залатавуснага, якія прывез з Рыму сакратар Апостальскай Нунцыятуры ў Маскве манс. Антон Ёзіч.

Пасля Боскай Літургіі сьв. Яна Залатавуснага, у імя якога названая парафія, Уладыка Сьцяпан (Мянёк) пажадаў грэка-каталіцкай супольнасьці ў Расеі павялічвацца і надалей даваць добрае сьведчанне веры ў Ісуса Хрыста. Былі прачытаныя таксама віншавальныя лісты Апостальскага Нунцыя ў Расеі архібіскупа Антоніо Меніні і мэра горада Новакузьнецка. Напрыканцы прамовілі прадстаўнікі адміністрацыі горада, муфтый мясцовай мусульманскай супольнасьці і прадстаўнікі іншых дэлегацыяў, якія прыехалі на ўрачыстасьць.

Царква ў Новакузьнецку, пабудаваная за 4 гады пад кіраўніцтвам айца Аляксея Баранікава, будзе месцам малітвы для вернікаў усходняга і лацінскага абрадаў. Сама сьвятыня ўзьведзеная паводле візантыйскай традыцыі і можа зьмясьціць каля 400 чалавек.

Новакузьнецк — прамысловы горад Кузбаса (Кузьнецкага вугальнага басейна), у якім жыве больш за 500 тыс. чалавек. У 1930-я гады і пасля ІІ Сусветнай вайны гэты горад быў месцам масавых дэпартацый грэка-католікаў з Украіны. У 50-х гадах імі пачалі апекавацца каталіцкія сьвятары, якія нават наймаліся на працу ў мясцовыя шахты, каб не ўзбуджаць падазрэньняў.

Вялікую дапамогу падчас арганізацыі і правядзеньня Чыну асьвячэньня храму сьв. Яна Залатавуснага аказалі семінарысты Львоўскай духоўнай семінарыі Сьвятога Духа. Пасьля заканчэньня ўрачыстасьцяў семінарысты вырашылі дапамагчы сьвятарам, якія працуюць на поўначы Цюменскай вобласьці, а асабліва там, дзе жыве найбольш вернікаў УГКЦ — Мегіоне, Ніжневартаўску і Сургуце.

«Мы не павінны расцэньваць асьвячэньне першага на тэрыторыі Расеі каталіцкага храму ў візантыйскім стылі як акт празелітызму. Бо ў Расеі жыве каля мільёну ўкраінцаў, а сярод іх шмат грэка-католікаў. Менавіта ім і будзе служыць гэты храм», — пракаментаваў гэтую падзею Уладыка Сьцяпан.

*Паводле дадзеных Дэпартамента інфармацыі УГКЦ*

# Сьвята грэка-каталіцкай парафіі ў г. Караганда

14 кастрычніка 2007 г. адбылося храмавае сьвята грэка-каталіцкай парафіі Пакрова Насьвяцейшай Багародзіцы ў Карагандзе. Сьвяточную Боскую Літургію ўзначаліў а. Сьцяпан Угрын, адміністратар храму сьвятога Язэпа г. Астаны (які шмат разоў удзельнічаў у душпастырскіх ініцыятывах у Беларусі). Разам з ім спаўслужылі а. Яраслаў Галаўчук (Паўладар), а. Алег Пігій (Караганда), а. Уладзімір Грыдын, а. Валеры Ерміш (Балхаш). Настаяцель храму протаярэй Васілій Гавера ў гэты дзень браў удзел у асьвячэньні новазбудаванага храму ў Новакузьнецку (Расея).

Разьдзяліць радасьць сьвята прыбылі шматлікія вернікі з рыма-каталіцкіх парафіяў, семінарысты Вышэйшай духоўнай семінарыі г. Караганды, а таксама ўкраінская грэка-каталіцкая супольнасьць г. Астаны. Сьвяточную Боскую Літургію сьпяваў маладзёвы хор Пакроўскай царквы. Багаслужэньне скончылася асьвячэньнем вады, па заканчэньні якога ўсіх парафіянаў і гасьцей у двары царквы частавалі сапраўдным казахскім пловам ды паілі гарбатай.

А напрыканцы адбылася сустрэча грэка-каталіцкай і рыма-каталіцкай моладзі. Усіх удзельнікаў сустрэчы віталі а. Алег Пігій, с. Міхаліна Гарнакевіч СНДМ, якія разам з групай мясцовай моладзі былі яе ініцыятарамі.

*Аксана Пігій, Караганда*

# РАЗАМ

**СТАРОНКІ ГРЭКА-КАТАЛІЦКІХ СЕМІНАРЫСТАЎ, выпуск №4, (28)-2007**


## *Дзе біскуп...*

**«Дзе біскуп — там Царква». Гэтыя словы Ігната Антыяхійскага неаднаразова цытавана 10 лістапада бягучага году, у той час, калі адбыўся інгрэс Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага лацінскага абраду архібіскупа Тадэвуша Кандрусевіча.**

**Сапраўды, сьвяткаваньне ўступленьня на сваю катэдру і прыняцьця адказнасьці за сваю паству архібіскупам, сталася ўрачыстасьцю ўсёй Царквы. Да гэтае ўрачыстасьці, хочучы разьдзяліць радасьць сваіх братоў рыма-каталікоў, далучыліся таксама беларускія грэка-католікі: вернікі, семінарысты, сьвятары.**

**Грэка-каталіцкія семінарысты, напэўна, у асаблівы спосаб былі заўважныя на сьвяце дзякуючы сваім усходнім стыхарам, да якіх, аднак, ужо паспеў прызвычаіцца лацінскі катэдральны храм. Перакананыя, што яны — стыхары — могуць стацца сімвалам «еднасьці ў разнастайнасьці», будзьма да такой еднасьці імкнуцца РАЗАМ!**

**Старонкі «РАЗАМ» у гэтым нумары газеты «ЦАРКВА» прызначаны, каб зьмясьціць дакументацыю ўступленьня Архібіскупа Тадэвуша Кандрусевіча на пасад Мітрапалітаў Мінска-Магілёўскіх.**

## *«Няхай Бог блаславіць Беларусь!»*

### *Архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч уступіў на пасад Мітрапалітаў Мінска-Магілёўскіх*

Словы «Няхай Бог блаславіць Беларусь!», што прагучалі з вуснаў архібіскупа Тадэвуша Кандрусевіча, Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага падчас яго кананічнага ўступленьня на пасад 10 лістапада 2007 г. у мінскім архікатэдральным касьцёле Імя Найсьвяцейшай Дзевы Марыі, працяглымі воплескамі сустрэлі некалькі тысяч вернікаў, якія бралі ўдзел ва ўрачыстасьці.

Урачыстую Літургію, якую канцэлебравалі два кардыналы, дзевятнаццаць біскупаў з розных краінаў, амаль усе сьвятары Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, сьвятары-госьці з іншых дыяцэзій Беларусі і з-за мяжы, распачаў Апостальскі Нунцый Марцін Відавіч. Ён прывітаў новага Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага, пасля чаго запрасіў канцлера архідыяцэзіі кс. Юрыя Касабуцкага абвясьціць Апостальскі ліст Сьвятога Айца Бенядыкта XVI *Sollіciti Ecclesiae*, якім Папа прызначыў Тадэвуша Кандрусевіча Архібіскупам Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім. Ліст прагучаў на лацінскай і беларускай мовах.

Пасля прачытаньня папскага дакументу архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч прыняў біскупскі пастарал — знак пастырскай улады ў мясцовым Касьцёле і ўзначаліў цэлебрацыю Еўхарыстыі. Яна працягнулася цырымоніяй выразу пашаны і паслухмянасьці духавенства архідыяцэзіі свайму новаму архібіскупу.

Пасля чытаньняў са Сьвятога Пісаньня, якія раскрывалі глыбокі сэнс таямніцы Касьцёла і біскупскага служэньня, Мітрапаліт прамовіў палымяную гамілію. *(Поўны тэкст яе мы прапануем ніжэй; захоўваем у ім мову і арфаграфію арыгіналу — Рэд.)*

Вітаючы прысутных ярархаў, Мітрапаліт з асаблівымі словамі прывітаньня зьвярнуўся да свайго папярэдніка — Сьведкі веры кардынала Казіміра Свёнтэка.



Воплескамі вернікі прывіталі прадстаўніка праваслаўнага Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі Яго Праасвяшчэнства япіскапа Бабруйскага і Быхаўскага Серафіма.

Напрыканцы Літургіі Упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасьцяў Леанід Гуляка прачытаў прывітальны ліст з нагоды ўступленьня на пасад новага Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі і ўручыў Тадэвушу Кандрусевічу адпаведны адрас.

Пасьля гэтага слова ўзяў папярэднік Мітрапаліта Кандрусевіча на Мінска-Магілёўскай катэдры кардынал Казімір Свёнтэк. Яго айцоўскія словы архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч слухаў са слязьмі на вачах, а потым, падышоўшы да кардынала, укленчыў перад ім і пацалаваў пярсьцёнак на руцэ Сьведкі веры. Казімір Свёнтэк таксама пацалаваў біскупскі пярсьцёнак свайго наступніка, пасьля чаго абодва ярархі моцна абняліся, і было відаць, што гэтыя абдымкі — не толькі старажытны хрысьціянскі рытуал, а сапраўдны знак любові і шчырай павагі тых, каго сам Хрыстос паставіў пастырамі ў сваім Касьцёле.

Акрамя кардынала, архібіскупа Тадэвуша Кандрусевіча ад імя Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі прывітаў яе Старшыня Гродзенскі біскуп Аляксандр Кашкевіч, пасля якога прамовілі ксёндз пралат Эдмунд Даўгіловіч-Навіцкі — ад імя духавенства Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і ксёндз Ігар Лашук SDB — ад імя членаў манаскіх супольнасьцяў і таварыстваў апостальскага жыцьця, якія нясуць служэньне ў архідыяцэзіі. Акрамя таго, віншавалі Мітрапаліта таксама прадстаўнік Беларускай Праваслаўнай Царквы ўладыка Серафім і прадстаўнік дэлегацыі, якая прыбыла на ўрачыстасьць з месца папярэдняга служэньня архібіскупа Кандрусевіча — архідыяцэзіі Маці Божай у Маскве.

З асаблівым прывітальным Словам да Мітрапаліта зьвярнуўся Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей Гаек, у якім павіншаваў Уладыку Тадэвуша з уступленьнем на Пасад Мінска-Магілёўскіх Мітрапалітаў, пажадаў Божага блаславеньня і малітвам усіх сьвятых Беларускай Зямлі, і асабліва Еўфрасіньні Полацкае, даручыў Архіпастырскае служэньне Мітрапаліта. (*Тэкст Слова гл. побач — Рэд.*)

Разам з Апостальскім Візітатарам ва ўрачыстым багаслужэньні ўдзельнічалі таксама сьвятары, семінарысты і вернікі Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы.



Завяршаючы набажэнства, Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч яшчэ раз шчыра падзякаваў усім удзельнікам урачыстасьці. Ён яшчэ раз адзначыў асаблівыя заслугі кардынала Казіміра Свёнтэка ў справе захаваньня і адраджэньня веры на нашай зямлі, назваўшы гэтага вялікага чалавека, які перажыў доўгія страшныя гады перасьледу за веру, «жывым мучанікам».

Працягнуўшы ў Беларусі сваю даўнюю традыцыю, што ўзнікла ў гады пастырскага служэньня ў Расіі, Мітрапаліт зьвярнуўся да прысутных вернікаў са словамі прывітаньня на 11-ці розных мовах, падкрэсліваючы такім чынам універсальнасьць Каталіцкага Касцёла, які ахоплівае прадстаўнікоў розных нацыяў і народаў.

Акрамя згаданых вышэй асобаў, у Літургіі бралі ўдзел госьці з Аўстрыі, Казахстана, Літвы, Польшчы, Расеі, Румыніі і Украіны, прадстаўнікі розных хрысьціянскіх супольнасьцяў і рэлігій, а таксама прадстаўнікі дзяржаўнай улады, прадстаўнікі дыпламатычных місій у Рэспубліцы Беларусь, людзі навукі і культуры, супрацоўнікі дабрачынных арганізацый «Renovabis» і «Caritas» дыяцэзіі Лінц (Аўстрыя). На ўрачыстасьць прыбылі таксама сваякі і блізкія архібіскупа Кандрусевіча, а таксама вернікі з яго роднага Адэльска і Гародні.

Завяршылася набажэнства велічнымі гукамі беларускага рэлігійнага гімну «Магутны Божа», якія, ўзьлятаючы ўвыш, зьліваліся з пералівам званоў архікатэдры, абвяшчаючы пачатак новай старонкі ў гісторыі ўсяго Касьцёла ў Беларусі.

*Тэкст паводле Catholic.by*

*Архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч*

# Гамілія падчас сьвятой Імшы кананічнага ўступлення на пасаду Ардынарыя Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі

*Мінск, архікатэдральны касцёл Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, 10 лістапада 2007 г.*

**Умілаваныя ў Хрысце браты і сёстры!**

**1.** 25 ліпеня 1989 года ўпершыню ў сваім жыцці я пераступіў парог мінскага катэдральнага касцёла Імя Найсвяцейшай Панны Марыі, які залатымі літарамі ўпісаны ў гісторыю Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. Тады ў ім месцілася спартовая зала. Я ўвайшоў у вестыбюль. Жанчына, якая сядзела на вахце, сказала мне: «Сюды нельга!». Я пачаў прасіць яе, кажучы, што мне вельмі падабаецца спорт і што мне хацелася б паглядзець, як практыкуюцца спартоўцы. У рэшце рэшт яна саступіла маім просьбам і дазволіла мне ўвайсці. Я добра памятаю, як прайшоў па правай ад уваходу наве, прыадчыніў дзверы і ўбачыў барцоў. Міжволі ўзнікла думка, што, хоць спартовыя залы і патрэбныя (я, дарэчы, таксама займаюся спортам), але патрэбныя і залы, дзе, калі так можна сказаць, «практыкуецца», удасканальваецца чалавечы дух. Дом малітвы павінен выкарыстоўвацца ў адпаведнасці са сваім прызначэннем.



Я паціху выйшаў з ператворанай у спартовую залу святыні з надзеяй і малітвай, каб адбыўся цуд і каб яна зноў стала месцам абвяшчэння Добрай Навіны і цэлебрацыі сакрамэнтаў.

Праз некалькі гадзін з Ватыкана прыйшло паведамленне пра маё прызначэнне біскупам, Апостальскім Адміністратарам Мінскай дыяцэзіі для каталікоў лацінскага абраду ў Беларусі.

Божы Провід учыніў так, што сёння ў адпаведнасці з рашэннем Святога Айца Бэнэдыкта XVI, у якім я бачу волю Найвышэйшага і якому выказваю належную пашану, удзячнасць і поўную паслухмянасць, я зноў пераступаю парог гэтай святыні ўжо ў якасці новага Ардынарыя Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі. Пасля шаснаццаці гадоў служэння ў Расіі, дзе ўсё трэба было ўздымаць практычна з нуля, я вяртаюся на старое і адначасова новае месца служэння, бо вельмі шмат змянілася ў Беларусі і ў жыцці Каталіцкага Касцёла ў нашай Бацькаўшчыне. Змяніўся і не перастае змяняцца выгляд гарадоў і вёсак, развіваецца інфраструктура, людзі жывуць лепш і маюць значна больш магчымасцяў для духоўнага ўзрастання.

**2.** З вялікім хваляваннем і пачуццём адказнасці я ўваходжу ў гэты архікатэдральны касцёл — касцёл-Маці ўсіх касцёлаў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі — і вітаю вас словамі святога апостала Паўла: «Ласка Пана нашага Езуса Хрыста і любоў Бога Айца, і еднасць Духа Святога няхай будуць з усімі вамі» *(пар. 2 Кар 12, 13).* З гэтымі словамі Апостала народаў на вуснах я стаю перад вамі як ваш брат і адначасова як ваш біскуп.

Вітаю ўсіх, хто прыбыў на сённяшнюю ўрачыстасць. Перадусім вітаю Апостальскага Нунцыя арцыбіскупа Марціна Відавіча, які прадстаўляе Святога Айца Бэнэдыкта XVI, і беларускіх біскупаў на чале са Старшынёю Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі Аляксандрам Кашкевічам. Асаблівыя словы прывітання кірую да кардынала Казіміра Свёнтка, майго папярэдніка на Мінска-Магілёўскай кафедры. На яго плечы легла надзвычайная місія як адраджэння веры, так і аднаўлення гэтага катэдральнага касцёла і многіх іншых святыняў. Ад шчырага сэрца выказваю сваю падзяку Вашай Эмінэнцыі і прашу ў Пана Бога благаслаўлення на далейшую дзейнасць. Выражаю таксама ўдзячнасць Біскупу Антонію Дзям'янка за яго адданую і ахвярную працу ў якасці Апостальскага Адміністратара нашай Архідыяцэзіі. З радасцю вітаю аднаго з найбліжэйшых паплечнікаў Папы Яна Паўла II і Бэнэдыкта XVI кардынала Казіміра Шоку, карані якога з Беларусі, бо яго бацька нарадзіўся непадалёк ад Гродна.

Шчыра вітаю біскупаў і прадстаўнікоў Епіскапатаў з Аўстрыі, Казахстана, Літвы, Польшчы, Расіі, Румыніі, Украіны, святароў і манахаў. Сардэчна вітаю Уладыку Серафіма, Епіскапа Бабруйскага і Быхаўскага, які прысутнічае тут ад імя Мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха Усяе Беларусі. Вітаю прадстаўнікоў іншых хрысціянскіх Цэркваў і супольнасцяў, нехрысціянскіх рэлігій. Шчыра вітаю прадстаўнікоў дзяржаўных уладаў, на чале з Упаўнаважаным па справах рэлігій і нацыянальнасцей пры савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь Леанідам Паўлавічам Гулякам; прысутных тут прадстаўнікоў дыпламатычных місій, свету навукі і культуры, дабрачынных арганізацый, асабліва «Renovabis» і «Caritas» дыяцэзіі Лінц. З асабліва цёплымі пачуццямі вітаю сваякоў, блізкіх, вернікаў з майго роднага Адэльска і з Гродна, а таксама з Расіі і ўсіх вас, браты і сёстры, веруючых і няверуючых, і ўсіх людзей добрай волі.

**3.** Сённяшняя ўрачыстасць кананічнага ўступлення на пасаду Ардынарыя Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі — гэта мае заручыны з гэтым партыкулярным Касцёлам. З вялікім хваляваннем я памаліўся перад Найсвяцейшым Сакрамэнтам, пацалаваў алтар, прыняў пастарал — знак біскупскай улады — і ўзышоў на кафедру, каб узяць на сябе адказнасць за даручаны маёй пастырскай апецы статак, у якім Дух Святы паставіў мяне кіраваць Касцёлам Божым у імя Айца, вобраз якога я пакліканы ўвасабляць у Касцёле; у імя Сына Яго Езуса Хрыста, настаўніцкае, святарскае і пастырскае служэнне якога мне трэба будзе выконваць; і ў імя Святога Духа, які ажыўляе Касцёл і лечыць нашую немач сваёю моцаю *(гл. Абрад пасвячэння біскупа).* Я малю Хрыста Першасвятара і Добрага Пастыра умацоўваць мяне ў гэтым служэнні Народу Божаму, каб я стаў жывым знакам прысутнасці Езуса Настаўніка ў Ягоным Касцёле, як да гэтага заклікае Папа Ян Павел II у адной са сваіх апошніх кніг «Устаньце, хадзем», што стала як быццам яго духоўным тэстаментам *(пар. «Устаньце, хадзем», Дзень кансэкрацыі: пасярод касцёла).*

**4.** Пачынаючы сваё служэнне ў якасці кіраўніка Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, жадаю разам з вамі, браты і сёстры, сузіраць вобраз Хрыста, Добрага Пастыра, які да канца нас палюбіў і наказаў нам любіць адзін аднаго; які сам выбірае сваіх пастыраў і пасылае іх, каб яны ішлі і прыносілі плён, і каб гэты плён трываў *(пар. Ян 15, 16).*

Заклікаю вас разам са мною сузіраць гэты вобраз, каб лепш зразумець, чым з'яўляецца ў Касцёле біскуп і якая яго місія, згодна з думкаю святога Ігнацыя з Антыёхіі: дзе біскуп, там і Касцёл. Сам Езус уяўляе сабою кранальны вобраз любячага Пастыра, які ведае сваіх авечак, прабывае з імі, падзяляе іх лёс, бароніць ад небяспекаў, ахоўвае, шукае згубленую і вядзе бяспечнаю сцежкаю. Больш за тое, калі ўзнікае такая патрэба, Ён аддае за іх сваё жыццё. Пастыр — не найміт, ён пасланы, каб пасвіць статак і прыносіць духоўны плён *(пар. Ян 10, 1–18).*

Біскуп, па-грэцку *επίσκοπος*, што азначае «той, хто назірае, хто ўзіраецца», узіраецца перш за ўсё на Хрыста, каб праз прызму Яго вучэння і прыкладу назіраць за даручаным яму Народам Божым. Папа Бэнэдыкт XVI падчас пасвячэння шасці новых біскупаў 29 верасня гэтага года назваў біскупа Анёлам ахоўнікам даручанага яму Касцёла, які ім апякуецца, абараняе яго і накіроўвае на правільны шлях *(пар. OMELIA DI SUA SANTITA` BENEDETTO XVI).*

Гісторыя Касцёла ведае шмат такіх пастыраў, якія, да канца палюбіўшы свой статак і поўныя клопату пра тое, каб прыносіць плён свайго служэння, узіраліся на вобраз Добрага Пастыра і імкнуліся наследаваць Яго ў выкананні гэтай нялёгкай місіі. Многія з іх вернасць свайму пакліканню пацвердзілі цярпеннямі і нават мучаніцкай смерцю. Тут належыць згадаць пра Слугаў Божых біскупа Баляслава Слосканса, Апостальскага Адміністратара Магілёўскай архідыяцэзіі і Мінскага біскупа Зыгмунта Лазінскага, беатыфікацыйны працэс якіх цяпер вядзецца, а таксама пра сведку веры кардынала Казіміра Свёнтка, які сёння знаходзіцца сярод нас.

«Хвала Бога — гэта жывы чалавек», — вучыць святы Ірэнэй Ліёнскі. «Жывы» азначае перш за ўсё духоўна і маральна здаровы. Нездарма Слуга Божы Ян Павел II кажа, што чалавек — гэта першы і галоўны шлях Касцёла, прычым гэты шлях быў пачаты самім Хрыстом *(пар. RH 14).*

Бэнэдыкт XVI, клапоцячыся пра духоўнае дабро чалавека, перасцерагае ад небяспекаў, якія пагражаюць людзям і грамадству. Гэта — секулярызм, маральны рэлятывізм, які становіцца новым вызнаннем веры, своеасаблівым новым Credo, рэлігійная абыякавасць і часам агрэсіўны лібералізм. Усё гэта вядзе да з'яўлення неапаганства, адмаўлення ад маральных каранёў і хрысціянскіх каштоўнасцяў і такім чынам да дэхрысціянізацыі грамадства. Як адказ на гэтыя выклікі, што пагражаюць сучаснаму свету, Ян Павел II заклікае нас звярнуцца да Хрыста і адчыніць перад Ім дзверы сваіх сэрцаў, бо толькі ў ім чалавек можа спазнаць сябе да канца *(пар. OMELIA DI GIOVANNI PAOLO II PER L'INIZIO DEL PONTIFICATO)*, а Бэнэдыкт XVI заахвочвае навярнуцца да Хрыста, які нічога не забірае, а толькі дае *(пар. OMELIA DI SUA SANTITA` BENEDETTO XVI).* Як жа не згадаць тут словы апостала Пятра: «Пане, да каго мы пойдзем? Ты маеш словы жыцця вечнага» *(Ян 6, 68).* Таму чалавек і клопат пра яго збаўленне павінны стаць вуглавым каменем нашай праграмы.

**5.** Усведамленне таго, што сёння я прымаю на сябе выключна важную місію, з аднаго боку, калі разважаць чыста па-чалавечы і разлічваць толькі на ўласныя сілы, напаўняе мяне цалкам абгрунтаванай бояззю. Ці змагу я выканаць даручанае мне заданне, ці не перавышае яно маіх сілаў і здольнасцяў? З другога ж боку, я ведаю, што калі Бог пасылае, то дае і неабходныя сілы і ласку для выканання даручанага задання. Таму сваё пастырскае служэнне ў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі праз заступніцтва Панны Марыі, Апекуна Беларусі святога Міхала Арханёла і майго апекуна ў цяжкіх справах святога Юды Тадэвуша я даручаю Богу, паўтараючы дэвіз свайго біскупскага служэння: *Quis ut Deus* — «Хто ж, калі не Бог!». Я глыбока веру, што мне будуць спадарожнічаць словы падбадзёрвання, якія сказаў Папа Ян Павел II яшчэ 20 кастрычніка 1989 года адразу ж пасля майго біскупскага пасвячэння ў ватыканскай базыліцы святога Пятра: «Тадэвуш, не бойся, усё будзе добра. Я за цябе малюся».

Я ведаю, Яне Паўле Вялікі, ты за мяне молішся і благаслаўляеш мяне з вакна дома нашага нябеснага Айца. Я веру, што мне будзе спадарожнічаць таксама благаслаўленне Святога Айца Бэнэдыкта XVI,

якое ён з айцоўскаю любоўю перадаў у Буле пра маё прызначэнне арцыбіскупам Мітрапалітам Мінска-Магілёўскім.

Разам з тым я прашу і вас, дарагія браты і сёстры, маліцца за мяне. Бог пасылае мяне «абвяшчаць год ласкі Пана» *(Іс 61, 2)*. А для гэтага патрэбныя сілы, асабліва калі ўзяць пад увагу выклікі нашага часу. Ізраэль перамагаў Амаліка, калі Майсей маліўся з узнятымі ўгору рукамі. Калі ж ён стаміўся і рукі яго пацяжэлі, то Аарон і Ор падтрымлівалі іх для малітвы, каб перамагчы ў бітве з амалікіцянамі *(пар. Зых 17, 8–13)*. Таксама і я сёння прашу ў вас малітоўнай падтрымкі.

**6.** Хто жадае напіцца з крыніцы, той павінен укленчыць і схіліць галаву, — гэта ўсім вядомая праўда. Пачынаючы сваю місію ў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, я ўсведамляю, што гэтая задача была б невыканальнай, калі б я разлічваў выключна на сябе. Гэта — заданне для ўсіх нас, і мы ўсе павінны актыўна далучыцца да яго выканання; усе — духавенства і свецкія вернікі, кожны ў адпаведнасці са сваім пакліканнем. Збаўляе чалавека Бог, але для выканання гэтай справы Яму патрэбныя мы. Мы ўсе павінны стаць Яго рукамі, нагамі, вуснамі.

Таму я звяртаюся да вас, браты ў біскупскім служэнні, святары, члены манаскіх супольнасцяў і таварыстваў апостальскага жыцця, прадстаўнікі свету навукі і культуры, свецкія вернікі, каб мы ўсе разам, салідарна і ў адпаведнасці з прынцыпамі Хрыстовага Евангелля ўдзельнічалі ў духоўным адраджэнні і станаўленні нашай Бацькаўшчыны.

Бог паставіў нас, біскупаў, тут на беларускай зямлі, каб мы служылі беларускаму народу; паставіў у гэты лёсавызначальны час. Мы пакліканыя зрабіць усё, што ад нас залежыць, каб быць адпаведнымі гэтаму часу людзьмі, з усёю адказнасцю і салідна выконваючы сваю прафетычную (настаўніцкую), святарскую і пастырскую місію дзеля дабра людзей, да якіх мы пасланыя.

З асаблівым заклікам я звяртаюся да святароў. Дзякую за самаадданую працу як мясцовым святарам, так і тым, хто прыбыў да нас з дапамогаю з-за мяжы. Моцаю сакрамэнту святарства мы ўтвараем таямнічую супольнасць *(пар. PG 47)*, у якой здзяйсняецца айцоўская і братняя сувязь паміж біскупам і святарамі. Вы з'яўляецеся маімі першымі памочнікамі. Мы разам утвараем прэзбітэрый нашай архідыяцэзіі і пакліканыя разам несці адказнасць за яе духоўны стан і за перададзеную нам спадчыну веры. Я хачу быць для вас айцом, які пра вас клапоціцца і вас абараняе. Разам з тым я са спадзяваннем разлічваю на ўзаемнасць, паразуменне, дапамогу і адказнае служэнне на жніве Пана.

Неабходна памятаць, што мы пакліканыя не валадарыць, а служыць па прыкладзе самога Збаўцы *(пар. Мц 20, 28)*. Пры гэтым нашае служэнне пры алтары Пана, асабліва цэлебрацыя Эўхарыстыі, павінна здзяйсняцца ў адпаведнасці з зацверджанымі касцёльнаю ўладаю нормамі, бо гэта не асабістае дзеянне святара, а дзеянне самога Хрыста.

Вялікую надзею я ўскладаю на семінарыстаў. Пакліканне да святарства, будучы таямніцаю, з'яўляецца адначасова найбольшым дарам самаго Бога. Неабходна гэты дар берагчы і развіваць. Жадаю вам, каб гады фармацыі ў семінарыі сталі часам сур'ёзнай падрыхтоўкі да святарства, бо жніво вялікае, а работнікаў усё яшчэ мала, і трэба прасіць Гаспадара жніва, каб Ён паслаў работнікаў на жніво сваё *(пар. Мц 9, 37–38)*, таму што так шмат сэрцаў, якія чакаюць Евангелля!

Я са спадзяваннем звяртаюся да манаскіх супольнасцяў і таварыстваў апостальскага жыцця. Вашыя харызмы, якія з'яўляюцца вялікім скарбам Касцёла, павінны яшчэ больш плённа служыць яго ўзбагачэнню і новай евангелізацыі. Як няма Касцёла без кансэкраваных асобаў, так не можа быць кансэкраванага жыцця па-за Касцёлам. Розныя харызмы манаскіх супольнасцяў і таварыстваў апостальскага жыцця разам з дыяцэзіяльным духавенствам і Народам Божым павінны ўтвараць адзіны, прыгожы, шматколерны сад нашай архідыяцэзіі, які будзе гарманічна разрастацца. Разлічваю на вашую дапамогу і супрацоўніцтва.

Нам неабходна таксама звярнуць больш пільную ўвагу на душпастырства пакліканняў. Гэта задача як святароў і кансэкраваных асобаў, так і парафіяльных супольнасцяў і сем'яў. Усе мы нясем



адказнасць за пакліканні. Няхай нашыя душпастырскія намаганні, узмоцненыя малітваю, дапамогуць сынам і дочкам нашае зямлі пачуць голас Пана, які іх кліча.

Выключна важнаю сфераю дзейнасці Касцёла з'яўлялася і ў наш час з'яўляецца неабходнасць паўнавартаснай катэхізацыі не толькі дзяцей і моладзі, але таксама і дарослых, бо шмат з іх у свой час не мелі такой магчымасці. Для больш дзейснага навучання прынцыпам веры і яе ўмацавання я заклікаю святароў, кансэкраваных асобаў і катэхетаў выкарыстоўваць новыя сучасныя метады і сродкі катэхізацыі, не забываючыся пры гэтым і пра старыя, выпрабаваныя часам, каб можна было сумясціць *vetera et nova* — старое і новае, бо, як кажа прымаўка, вельмі часта новае — гэта добра забытае старое. Нездарма Ян Павел II у Апостальскай канстытуцыі *Fidei depositum* — «Задатак веры», абвешчанай з нагоды апублікавання Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, піша, што Катэхізіс утрымлівае ў сабе і новае, і старое *(пар. Мц 13, 52)*, бо хоць вера заўжды застаецца тою ж самаю, але ў той жа час яна з'яўляецца крыніцаю заўсёды новага святла *(пар. Fidei depositum, III)*.

Звяртаюся да вас, свецкія вернікі. Адным з найбольш значных дасягненняў II Ватыканскага Сабору, сапраўднаю рэвалюцыяй стала яго вучэнне пра апостальства свецкіх. Відавочна таксама, што выключна важным у Касцёле XXI стагоддзя з'яўляецца менавіта гэтае апостальства. У секулярызаваным грамадстве, асабліва ў вялікіх гарадах, апостальства свецкіх з'яўляецца ў найвышэйшай ступені неабходным і незаменным. Без яго Касцёл не выканае даручанай яму Збаўцам місіі абвяшчэння Добрай Навіны. Сучасны свет мае вострую патрэбу ў сведчанні хрысціянаў.

Браты і сёстры, вы павінны быць соллю зямлі і святлом свету *(пар. Мц 5, 13–14)*. У нашым свеце, напоўненым неонавым святлом рэкламы, так шмат цемры ў чалавечых душах! Соль захоўвае прадукты ад псавання і надае ежы смак. Сённяшняму свету, які маральна гніе, неабходная соль, каб збавіць яго ад духоўнага раскладу. Таму будзьце тым святлом, якое свеціць у духоўнай цемры нашага свету. Будзьце тою соллю, якая захавае свет ад маральнага раскладу і надасць яму збаўчы смак хрысціянства. Будзьце тою евангельскаю закваскаю, што здольная заквасіць хрысціянскімі каштоўнасцямі наш свет *(пар. Гал 5, 9)*.

Пакліканая да таго, каб быць радасцю і надзеяй, як пра гэта казаў яшчэ Ян Павел II *(пар. DISCORSO DI GIOVANNI PAOLO II NEL CORSO DELL'INCONTRO MONDIALE CON LE FAMIGLIE)*, сучасная сям'я перажывае глыбокі крызіс. У той жа самы час шлях Касцёла вядзе праз сям'ю. Таму Касцёл нястомна падтрымлівае яе як створаны Богам інстытут і як адзіны саюз мужчыны і жанчыны, узняты Хрыстом да годнасці сакрамэнту. Сям'я з'яўляецца асноўнаю клетачкаю грамадства *(пар. AA 11)* і натуральным асяроддзем чалавечага жыцця. Таму яна не можа быць замененая ніякім іншым саюзам. Менавіта ў сям'і закладаецца падмурак чалавечай і духоўнай фармацыі маладых людзей. І ніхто не можа замяніць сям'ю ў гэтай справе. Каталіцкі Касцёл будзе вітаць і падтрымліваць усе здаровыя ініцыятывы дзяржавы і грамадства, скіраваныя на падтрымку і аздараўленне інстытуту сям'і.

Не ўтаю, што асаблівым адрасатам маіх біскупскіх спадзяванняў з'яўляецца моладзь. З аднаго боку, вы — надзея свету і Касцёла. З другога — менавіта за душы маладых разгортваецца самая жорсткая, часам агрэсіўная і бескампрамісная барацьба негатыўных сілаў сучаснага свету. Характэрным для сучаснай моладзі імкненням да інтэлектуальнага ўзрастання і высокага прафесіяналізму павінны спадарожнічаць глыбокія духоўныя і маральныя каштоўнасці, якія не могуць паддавацца негатыўнаму ўплыву суб'ектывізму і рэлятывізму. Шмат маладых людзей лічыць, што яны носяць у сабе невылечнае пачуццё адзіноты, пакінутасці, непатрэбнасці, загубленасці... Не бойцеся! Касцёл не пакіне вас у самоце. Хрыстус, які жыве ў сваім Касцёле, — гэта ваша надзея. Разлічвайце на Яго, адкрыйце перад Ім вашыя сэрцы. Ваш вялізны патэнцыял, юнацкі імпэт і энергія чакаюць таго, каб быць запатрабаванымі ў Касцёле. Заставайцеся вернымі хрысціянскім ідэалам, не паддавайцеся нічога не вартым абяцанкам секулярызаванага свету, будуйце сваю будучыню на нязменных і трывалых маральных прынцыпах. Няхай вернасць Хрысту вядзе вас да развіцця чалавечай асобы і яе годнасці на вобраз і падабенства Божае (пар. Быц 1, 27), да сапраўднай любові, да выхавання пачуццяў і адказнасці за сябе, Касцёл, Радзіму і яе гісторыю. Я вельмі разлічваю на вашую дапамогу і актыўны ўдзел у жыцці Касцёла.

З пачуццём глыбокай павагі і ўдзячнасці я звяртаюся да інтэлігенцыі, да людзей навукі і культуры, выкладчыкаў і студэнтаў. Менавіта Каталіцкі Касцёл заснаваў першыя універсітэты і асаблівую ўвагу прысвячаў і прысвячае развіццю навукі і культуры. Дарэчы, корань слова «культура» паходзіць ад слова «культ» і такім чынам паказвае на яе духоўнае значэнне. Евангелле, калі яно не становіцца элементам культуры, не можа быць прынятае ва ўсёй сваёй паўнаце тым ці іншым грамадствам.

У сучасным свеце ўзнікае вялікая колькасць праблемаў, што датычаць адносінаў навукі і веры. Таму людзям навукі і культуры неабходныя евангельскія паказальнікі, якія не абмяжоўваюць свабоду даследаванняў і творчасці, але з'яўляюцца неабходным святлом на гэтым шляху. Ад усяго сэрца жадаю вам, каб, ідучы за вучэннем Касцёла, якое гаворыць, што вера і навука — гэта «нібы два крылы, на якіх чалавечы дух узносіцца да пазнання праўды» *(FR, уступ)*, вы не толькі спазнавалі таямніцы створанага свету і рыхтавалі высокакваліфікаваных спецыялістаў, але таксама спрыялі фармацыі людзей, багатых Божай мудрасцю і гатовых узяць на сябе адказнасць за лёс Айчыны.

Вялікія спадзяванні я звязваю таксама з супрацоўнікамі сродкаў масавай камунікацыі, асабліва ў справе абвяшчэння Евангелля, служэння праўдзе і супольнаму дабру. Неабходнасць больш эфектыўнага абвяшчэння Добрай Навіны перад абліччам выклікаў секулярызаванага свету патрабуе выкарыстання сучасных метадаў і сродкаў евангелізацыі, сярод якіх асаблівае месца павінны займаць сродкі масавай камунікацыі. Таму мы абавязаныя звярнуць на гэта больш увагі, таксама як і на інтэнсіфікацыю выдання тэалагічнай, катэхетычнай, літургічнай і іншай рэлігійнай літаратуры. Усё гэта будзе служыць не толькі адраджэнню і развіццю духоўнасці, але таксама стане значным унёскам у справу развіцця беларускай культуры, узбагачаючы яе рэлігійнымі элементамі.

Сёння я не магу не згадаць і пра тых, хто праз хваробу ці пакуты становіцца падобным да церпячага Пана, і атуліць іх сваім сэрцам. Я памятаю і пра інвалідаў, вязняў, падарожных, мігрантаў, бежанцаў. Сваімі цярпеннямі і перажытымі цяжкасцямі падтрымлівайце Касцёл, які, у сваю чаргу, памятае пра вас у малітве і справах міласэрнасці.

Апошняя акалічнасць патрабуе асаблівай увагі. Папа Бэнэдыкт XVI у сваёй першай энцыкліцы «Бог ёсць любоў» паказвае, што сутнасці Касцёла ўласцівыя не толькі абвяшчэнне Божага слова і здзяйсненне сакрамэнтаў, але таксама і справы міласэрнасці *(пар. DCE 25)*.

Прычым дабрачыннасць павінна мець эклезіяльны характар, захоўваць высакароднасць і не станавіцца толькі формаю сацыяльнай падтрымкі. Яна павінна служыць справе абвяшчэння Добрай Навіны, выключаючы пры гэтым усялякія праявы празелітызму *(пар. DCE 31)*.

Я звяртаюся да прадстаўнікоў дзяржаўных уладаў. І Касцёл, і ўлады, маючы аўтаномію, пакліканыя, тым не менш, служыць адной мэце — дабру чалавека. Таму нас павінна аб'ядноўваць агульнае імкненне служыць людзям і клапаціцца пра годнасць чалавека. Памятаючы пра тое, што хоць Касцёл і не з гэтага свету, але ён знаходзіцца ў гэтым свеце і не аддзелены ад грамадства, я выказваю сваю гатоўнасць да ўзаемадзеяння і спадзяюся на сумеснае служэнне гэтай агульнай справе ў клопаце пра духоўны і матэрыяльны дабрабыт нашых суайчыннікаў.

Ужо гістарычна так склалася, што ў Беларусі на працягу стагоддзяў поплеч мірна жывуць людзі розных нацыянальнасцяў, моваў і культураў. Нездарма нашая Айчына славіцца сваёю талерантнасцю і адкрытасцю для ўсіх. Мы павінны берагчы, абараняць і далей развіваць гэтую спадчыну нашых продкаў і вялікі набытак беларускага народа.

Таксама і ў Каталіцкім Касцёле ёсць месца для кожнага: таму ён і каталіцкі, ад грэцкага слова *καθολικος* — паўсюдны, усеагульны. У Касцёле, як вучыць апостал Павел, не можа быць «розніцы паміж юдэем і элінам, бо той самы Пан ва ўсіх, шчодры для ўсіх, хто Яго кліча» *(Рым 10, 12).*

Іншаю характэрнаю ўласцівасцю Беларусі з'яўляецца яе шматканфесійнасць. З братняю любоўю я звяртаюся да прадстаўнікоў іншых вера-вызнанняў і, напоўнены духам адказнасці за нашу будучыню, выяўляю волю да супрацоўніцтва і дыялогу як з хрысціянскімі Цэрквамі і супольнасцямі, у першую чаргу — з Праваслаўнаю Царквою, так і з нехрысціянскімі рэлігіямі. Перад абліччам выклікаў сучаснасці як Каталіцкі Касцёл, так і Праваслаўная Царква займаюць практычна аднолькавыя пазіцыі. Асабліва гэта датычыць хрысціянскіх каштоўнасцяў, традыцыйнай сям'і, жыцця і іншых важных пытанняў. Мы павінны разам дзейнічаць у гэтым кірунку.

Сёння ўсё больш і больш востра стаіць шэкспіраўскае пытанне: *«To be or not to be»* — быць ці не быць хрысціянству, бо яму пагражае вельмі сур'ёзная небяспека. Я малю Найвышэйшага, каб нашыя адносіны былі адзначаныя не толькі талерантнасцю і ўзаемапавагаю, але таксама, каб у Духу нашага Збаўцы мы маглі будаваць супольнасць дзяцей Божых, заснаваную на ўзаемнай любові і праўдзе.

Усе мы розныя і па-рознаму праслаўляем Найвышэйшага, але мы — дзеці аднаго Бога і жывем на адной зямлі, а таму папросту абавязаныя, я нават сказаў бы, вымушаныя шукаць шляхоў да дыялогу і супрацоўніцтва.

Мір і гармонія ў грамадстве дасягаюцца не праз узаемавыключэнне, а праз узаемадапаўненне, што мае актуальнае значэнне таксама перад абліччам выкліку глабалізацыі і міграцыйных працэсаў, што імкліва пашыраюцца.

Для належнага здзяйснення ўскладзенай на Касцёл місіі ў сучасным свеце неабходная адпаведная фармацыя як святароў і кансэкраваных асобаў, так і свецкіх вернікаў, у тым ліку тэалагічная. Неабходныя адпаведныя, распрацаваныя на перспектыву, праграмы душпастырства. Неабходная таксама і адпаведная матэрыяльная база: перш за ўсё — святыні, а таксама пастырскія, выдавецкія, фармацыйныя, дабрачынныя, інфармацыйныя і іншыя цэнтры. Ад усяго сэрца, з надзеяй на далейшае супрацоўніцтва, я дзякую каталікам з Германіі, Італіі, Злучаных Штатаў Амерыкі, Аўстрыі, Польшчы і іншых краінаў за дапамогу і салідарнасць у адносінах да Каталіцкага Касцёла ў Беларусі, які адраджаецца.

**7.** Умілаваныя ў Хрысце браты і сёстры!

Знамянальна, што сваё біскупскае служэнне ў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі я пачынаю ў юбілейным годзе 90-ых угодкаў Фацімскіх аб'яўленняў і душпастырскім годзе, прысвечаным усеагульнаму пакліканню да святасці.

Марыя ў Фаціме заклікала да малітвы, пакаяння і навяртання, што было ўмоваю вырашэння ўсіх праблемаў. Народ не паслухаўся, і здарылася трагедыя. Сёння, праз 90 гадоў, фацімскія аб'яўленні актуальныя, як заўсёды актуальны заклік да навяртання. Мы ўсё больш і больш усведамляем, што як атэізм, так і секулярызм у рэчаіснасці вядуць да знішчэння чалавечай годнасці. Развіццё навукі і тэхнікі без уліку маральных і этычных прынцыпаў не толькі не вядзе да вырашэння праблемаў сучаснага свету, але стварае новыя, дагэтуль невядомыя, як, напрыклад, праблемы біяэтыкі ці геннай інжынерыі. Таму для нас недапушчальна паўтараць памылкі мінулага, недапушчальна другі раз наступаць на тыя самыя граблі.

Другі Ватыканскі Сабор вучыць пра ўсеагульнае пакліканне да святасці *(пар. LG 40).* Слуга Божы Ян Павел II у сваёй апостальскай адгартацыі на пачатак новага, трэцяга тысячагоддзя *«Novo millennio ineunte»* — «Распачынаючы новае тысячагоддзе» гаворыць, што перспектыва святасці павінна быць упісана ў нашу душпастырскую дзейнасць *(пар. NMI 30–41).*

Святасць — гэта не набытак ці прывілея абраных; яна магчымая для кожнага чалавека, бо так жадае Стварыцель, а Збаўца робіць гэта рэальным. Заклік да святасці павінен абвяшчацца з новаю моцаю, бо падчас катастрафічнага адрыву ад хрысціянскіх каранёў адмаўляецца хрысціянская канцэпцыя павагі да чалавечага жыцця і яго абароны ад зачацця да натуральнай смерці, хрысціянскае бачанне сям'і, заснаванай на сужэнстве мужчыны і жанчыны, свабода ў выхаванні дзяцей і садзеянне супольнаму дабру ва ўсіх яго формах. Гэтыя фундаментальныя каштоўнасці, што вынікаюць з натуральнага права, — неад'емныя і неаспрэчныя, адзначае Папа Бэнэдыкт XVI у сваёй апостальскай адгартацыі пра Эўхарыстыю *Sacramentum caritatis* — «Сакрамэнт любові» *(пар. SacrC 83).*

Шлях навяртання і шлях да святасці мы пакліканыя прайсці разам, і таму на самым пачатку маёй місіі на чале Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі я паўтараю словы вялікага біскупа, святога Аўгустына: «Для вас я хачу быць біскупам, а разам з вамі — хрысціянінам».

З гэтымі словамі я кірую мой позірк да цудатворнага абраза Маці Божай Будслаўскай і апекуна Беларусі святога Арханёла Міхала. Ім я даручаю нашую архідыяцэзію з надзеяй на тое, што маё разам з вамі служэнне Хрыстоваму Касцёлу дапаможа нам адарваць вочы ад зямлі і ўзняць іх угору, да Бога, каб мы былі арламі, дом якіх — у нябёсах; каб не свет з яго праблемамі, які становіцца ўсё больш секулярызаваным, валодаў намі, а наадварот, каб мы ажыўлялі яго духам Божым.

Перад абліччам выклікаў сучаснасці ёсць над чым задумацца. Калі яшчэ ў не зусім далёкім мінулым мы вытрывалі ў выпрабаваннях, што былі наступствам ганення Касцёла, то сёння ўзнікае рэальная праблема, як вытрываць, як бы парадаксальна гэта ні гучала, выпрабаванне новымі магчымасцямі, якія Касцёл атрымаў для рэалізацыі сваёй місіі. Мы перажываем пэўны парадокс. З ростам магчымасцяў, на жаль, не ідзе нага ў нагу ўзрастанне духоўнасці. Сёння мы з усёю сур'ёзнасцю павінны задумацца пра вырашэнне наступных і падобных праблемаў: як перанесці новыя выпрабаванні, якія нясе з сабою секулярызм, маральны рэлятывізм, лібералізм, геданізм, адмаўленне ад хрысціянскіх каранёў і маральных каштоўнасцяў, прапаганда нормаў паводзінаў і дзейнасці, якія супярэчаць хрысціянскай маралі, абагаўленне матэрыяльных даброт аў, спажывальніцтва і задавальненняў, спробы звесці рэлігію да прыватнай сферы жыцця чалавека ці, у лепшым выпадку, спіхнуць яе на абочыну жыцця, і гэтак далей.

Калі мы свабодна выбіраем той ці іншы від спорту, то не можам змяняць правілаў гульні. Гэта ўсім зразумела. Абраўшы хрысціянства, мы не можам змяняць Евангелля. Наадварот, Евангелле павінна перамяняць нас, і перамяняць да лепшага. Таму, браты і сёстры, змесцім у цэнтры нашага жыцця Бога і Яго закон, каб захаваць вернасць прынцыпам Евангелля, якія будуць спрыяць развіццю чалавечай асобы ў адпаведнасці з Божаю задумаю, а таксама дапамагаць у дасягненні святасці і ў развіцці грамадства на непахісных маральных прынцыпах.

Божа! Глянь літасціва на мяне, Твайго слугу, і на дручаны маёй пастырскай апецы Народ Божы, каб мы разам ішлі да святасці — мэты нашага жыцця. Глянь на нашую Бацькаўшчыну, каб яна, наша Белая Русь, заўсёды захоўвала духоўную чысціню і была прыемнаю Табе; каб над намі заўсёды было мірнае блакітнае неба. Адары нашу сінявокую краіну сваёю ласкаю, каб яна ў міры і ў Божым благаслаўленні квітнела на хвалу Бога і дзеля збаўлення людзей.

Няхай нам дапаможа ў гэтым Пан Бог і благаславіць нас! Амэн.

## Архімандрыт Сяргей Гаек
## Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі

N. 07.119/M Мінск, 10.11.2007.

**Яго Эксцэленцыя Найдастойны**
**Архібіскуп Тадэвуш Кандрусевіч**
**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі**
**М І Н С К**

***Эксцэленцыя, Высокадастойны Айцец Мітрапаліт Тадэвуш!***

У радасьці вернікаў Мінска-Магілёўскай Мітраполіі з нагоды вашага ўступленьня на Пасад Мінска-Магілёўскіх Архібіскупаў удзельнічае і Супольнасьць Грэка-Каталіцкай Царквы ў Беларусі.

Каталікі візантыйскага абраду, якія разам з братамі і сёстрамі лацінскага абраду складаюць *Адзіны, Сьвяты, Паўсюдны* (значыць Каталіцкі) *і Апостальскі Касьцёл* у Беларусі, дзякуюць Госпаду за прызначэньне Вас Яго Сьвятасьцю Папам Рымскім Бенядыктам XVI на старажытную катэдру Мінска-Магілёўскіх Мітрапалітаў і шчыра віншуюць Вас з пачаткам Вашага Архіпастырскага служэньня.

Вы пачынаеце новае служэньне як Першаярарх Каталіцкай Царквы на Вашай Бацькаўшчыне ў час, калі спаўняецца 490 год ад выданьня першых кнігаў старабеларускай Бібліі Францішка Скарыны. Гэта важны момант на шляху адраджэньня хрысьціянскай спадчыны Беларусі.

Ад шчырага сэрца жадаем Вам, Эксцэленцыя, каб Госпад Ісус Хрыстос шчодра дабраславіў вашыя шырокія архіпастырскія пляны.

Няхай Міласэрны Чалавекалюбца *«захавае Вас для сьвятых Сваіх Цэркваў у супакоі, цэласьці, добрай славе, здароўі і даўгалецьці, каб Вы маглі верна навучаць нас словам Яго праўды»* (пар. Анафора Боскай Літургіі сьв. Яна Залатавуснага)

І няхай сваімі малітвамі суправаджаюць Вас усе сьвятыя Беларускай Зямлі, а асабліва сьвятая Еўфрасіньня Полацкая, копію Крыжа якой просім прыняць ад нас — беларускіх грэка-католікаў — як выраз нашых малітваў і віншаваньняў.

*Архімандрыт Сяргей Гаек*
*Апостальскі Візітатар*
*для грэка-католікаў Беларусі*

**Над выпускам працавалі:**
Сяргей РАЮНЕЦ
Аляксей ФІЛІПЕНКА

**ПІШЫЦЕ НАМ:**
razam@biz.by

«RAZAM»
W.S.D., ul Kościelna 10,
17-312, Drohiczyn, POLSKA

# NAPOLI 2007

# За сьвет без насільля:

## Рэлігіі і культуры ў дыялогу



● 21.10.2007 г. Неапаль Патрыярх Ігнат Майсей І Дауд і Патрыярх Рыгор ІІІ з правага боку

21-23 кастрычніка 2007 г. ў паўднёва-італійскім горадзе Неапаль праходзіла Міжрэлігійная Сустрэча «За сьвет без насільля: Рэлігіі і культуры ў дыялогу». Яе арганізавалі рыма-каталіцкая архідыяцэзія Неапаль і Супольнасьць сьв. Эгідыя (Comunità di Sant'Egidio). Удзел у Сустрэчы ўзялі высокія прадстаўнікі хрысьціянскіх Цэркваў, а таксама сусьветных рэлігіяў.

У адкрыцьці Сустрэчы ўдзельнічаў Яго Сьвятасьць Папа Бенядыкт XVI, які прыбыў у Неапаль з пастырскім візітам. У нядзелю 21 кастрычніка Папа адслужыў сьв. Імшу, на якой прысутнічалі прадстаўнікі хрысьціянскіх Цэркваў і Супольнасьцяў, ды прамовіў казаньне. Са Сьвятым Айцом саслужылі між іншымі сірыйска-каталіцкі Патрыярх-эмерыт Ігнат Майсей І Дауд і грэка-каталіцкі мельхіцкі Патрыярх Атыяхіі Рыгор ІІІ (гл. фота). Папа Бенядыкт сустрэўся таксама з праваслаўным Усяленскім Патрыярхам Канстантынопаля Бартламеям І.

22 кастрычніка Патрыярх Бартламей наведаў горад Амальфі, дзе ад мясцовага рыма-каталіцкага архібіскупа атрымаў мошчы сьв. апостала Андрэя (Першапакліканага), што захоўваліся ў катэдры ў Амальфі.

23 кастрычніка Ўсяленскі Патрыярх Канстантынопаля Бартламей І атрымаў ва Ўсходнім Інстытуце ў Неапалі пачэсную годнасьць доктара «honoris causa». У рамках Акадэмічнага акту Патрыярх гаварыў аб неабходнасьці спалучыць адзінства і плюралізм, пачынаючы з павагі да традыцыйных культурных асаблівасьцяў народаў Еўрапейскай супольнасьці.

«Мы верым, што трэба пабудаваць будучыню Еўропы на павазе да ўсіх і ў асаблівасьці да розных рэлігіяў і ідэалагічных пунктаў гледжаньня. Таксама трэба адмовіцца ад фундаменталізму, якога б паходжаньня ён ня быў [ ... ]. У той жа час, калі чалавек робіцца асобай у поўным сэнсе гэтага слова, ён ставіцца з павагай да іншых людзей і да навакольнага асяроддзя. Значыць, да дому, у якім мы жывем», — зазначыў Патрыярх Бартламей І.

У частцы праграмы неапалітанскай Сустрэчы ўдзельнічаў таксама старшыня Аддзела Зьнешніх Царкоўных Сувязяў (ОВЦС) Маскоўскай Патрыярхіі Рускай Праваслаўнай Царквы Мітрапаліт Кірыл (Гундзяеў). 22 кастрычніка ён прачытаў даклад у катэдральным саборы горада Аверса на тэму экуменічнай адказнасьці хрысьціянаў у Еўропе.

Апошні дзень Сустрэчы — 23 кастрычніка 2007 г. быў Днём малітвы за мір. Хрысьціяне маліліся разам у адным з храмаў, а прадстаўнікам кожнай рэлігіі было выдзелена адмысловае месца для малітвы і медытацыі.

*а. Пётр Смалінскі, Рым*

# У Балгарыі ўшанавалі каталіцкіх новамучанікаў

«Сьвятасць зьяўляецца задачай усіх людзей,» — гэтымі словамі Папы Бенядыкта XVI кіруецца таксама Каталіцкая Царква ў Балгарыі, якая 13 лістапада 2007 г. ўшанавала сваіх новамучанікаў, расстраляных падчас камуністычнага рэжыму. Гэта блаславёныя Яўген Босілкаў — лацінскі біскуп Нікапольскі і тры грэка-каталіцкія сьвятары з Ордэну Ассумпцыяністаў: Камен Вічеў, Павел Джыджгаў і Язафат Шышкаў.

Урачыстую сьв. Імшу памяці мучанікаў у лацінскай катэдры сьв. Язэпа ў сталіцы Балгарыі г. Сафіі адслужылі: Апостальскі Нунцый у Балгарыі архібіскуп Джузеппе Леандза, Старшыня Балгарскай Канферэнцыі Біскупаў — Апостальскі Экзарх католікаў візантыйскага абраду Ўладыка Хрысто Пройкаў і Супэрыёр Айцоў Капуцынаў у Балгарыі а. Марыуш Полцын.

«Блаславёныя балгары, — сказаў падчас сьв. Імшы Апостальскі Нунцый, — зьяўляюцца ўзорам для сёньняшніх хрысьціянаў, асабліва для моладзі Балгарыі, якая імкнецца надаць сэнс уласнаму існаваньню і жадае ісьці за Хрыстом».

Ва ўрачыстасьцях удзельнічаў таксама архібіскуп Лорыс Францішак Капавіла, шматгадовы асабісты сакратар Папы Яна XXIII, які ў свой час быў Апостальскім Нунцыям у Балгарыі. «Быць католікамі — значыць памятаць аб тым, што мы зьяўляемся братамі праваслаўным і юдэям, мы зьяўляемся і жадаем быць сябрамі мусульманам і ўсім тым, якія шукаюць Бога, падпарадкоўваюцца Яго Законам і спадзяюцца на тое, што аднойчы ўвойдуць у Валадарства Нябеснае,» — сказаў Уладыка Лорыс.

Балгарскія новамучанікі зьяўляюцца бачным сьведчаньнем перасьледу, які балгарскі камуністычны рэжым чыніў супраць балгарскіх католікаў абодвух абрадаў — візантыйскага і лацінскага.

*Паводле Беларускай Праграмы Радыё Ватыкана*

а. Сяргей СУРЫНОВІЧ

# Быць вернымі адзінай, непадзельнай Хрыстовай Царкве

### Слова на ўрачыстасьці сьв. Язафата Кунцэвіча ў Парафіі Сьвятога Духа ў Віцебску 12 лістапада 2007

Тысяча год, як на гэтай зямлі пасьлядоўнікі Хрыста асянілі сябе знакам крыжа, у наступства Божага загаду, каб усю Зямлю ахінула сьвятло Ягонай Ісьціны. Хрысьціянства сюды ішло бяз гвалту і прымусу, ды і дзяржава наша ў тыя часы, нягледзячы на асобныя крыўды, была свабоднаю і незалежнай. Упэўненымі крокамі, перамагаючы цемру нядаўніх паганскіх багоў, ішлі да нашых продкаў новае жыцьцё, новая навука, новая моц. Як знак таму, на пераломе тысячагоддзяў у старажытнай сталіцы, на замчышчы полацкіх князёў, на стромкім беразе Рубона ўзнёсься велічны храм, маці ўсіх сьвятыняў — Сьвятая Сафія. Гэтая эпоха адметная і тым, што хрысьціянства ў той час было яшчэ адзіным. Такое і прыйшло яно на нашу зямлю, убранае ва ўсходнія традыцыі, збудаванае Хрыстом на скале, — на Пятровай Сталіцы.

Усё гэта найлепш згадваецца ў Полацку, калі хтосьці моліцца за наш народ, калі чуеш спрадвечныя і заўсёды актуальныя словы: «Госпадзе, зьмілуйся». Іх ніколі ня будзе сказана дастаткова, якой бы доўгай ні была малітва-літанія, што носіць ва ўсходняй Літургіі назву екценіі. Колькі ж трэба прасіць той літасьці ў Бога, каб усе мы зразумелі, які вялікі і страшны грэх падзелу таго, што непадзельнае — Хрыстовага Цела, сьвятой Царквы. Афіцыйны раскол у Канстантынопалі ў 1054 г. дайшоў да нашых земляў праз некалькі стагоддзяў. Потым, нібы камусьці не хапала «двух Рымаў», узьнік яшчэ і «трэці», і хрысьціяне, нібы жаўнеры пад крыжам, не стамляліся кідаць жэрабя падзелаў. Унія, якая па Божаму Провіду была заключана на нашай зямлі ў Берасьці ў 1596 г., на нейкі час зноў прынесла еднасьць паміж хрысьціянамі. З тае пары справа Уніі застаецца знакам пакаяньня і разуменьня страшнага і цяжкага граху. Лёс і гісторыя Уніі вельмі падобныя да лёсу сьвятога Язафата, які быў ня толькі яе сапраўдным сынам, але і дзеячам, пакутнікам, сьвятым.

* * *

Ян Кунцэвіч нарадзіўся ва Ўладзіміры-Валынскім на Ўкраіне. Пераняўшы ад бацькі-шаўца любасьць да кнігаў, юнак прыехаў па навуку ў Вільню, дзе стаўся прыхаджанінам вуніяцкай Сьвята-Траецкай царквы і сьпяваў там у хоры. Віленскі мітрапаліт Іпат Пацей адправіў маладога здольнага верніка вучыцца ў Віленскую акадэмію, а потым сам пастрыг яго ў манахі і даў яму імя Язафат.

Неўзабаве манах Язафат стаў архімандрытам манастыра Сьвятой Тройцы і праславіўся як выдатны прапаведнік-красамоўца, за што непрыяцелі далі яму мянушку «душахват» — лавец душаў. Здабыўшы для справы еднасьці Царквы тысячы віленчукоў архімандрыт Язафат Кунцэвіч быў



узьведзены ў біскупскі чын, а ў 1618 годзе атрымаў катэдру полацкага архібіскупа.

Калі манах Язафат атрымаў намінацыю на біскупа Полацка, ён меў 37 гадоў. Катэдрай біскупа была Сьвятая Сафія. Полацак, Віцебск, Мсьціслаў — гэты паўночна-ўсходні рэгіён краіны і стаў полем дзейнасьці біскупа.

Сьвяты Язафат заўсёды ў будзёныя дні насіў манаскую вопратку і ніколі ня зьняў пакутнага паса. У біскупскім пакоі доўгі час жыў бяздомны. Беднякі Полацака, Віцебска атрымлівалі хлеб, для сябе ж ён шкадаваў хлеба і ніколі ня еў мяса, вельмі мала спаў. Толькі на Боскую Літургію і храмы ён не шкадаваў ніякіх сродкаў. Людзей ажно палохала ягоная непасрэднасьць, даступнасьць. Вельмі часта яны не дазвалялі біскупу скончыць казаньне воклічам: «Кажы яшчэ, яшчэ! Мы хочам слухаць!». І ворагі, і прыяцелі называлі яго душахватам, а Сафійскі сабор быў перапоўнены людзьмі.

* * *

Дынамічнае развіцьцё Уніі на Беларусі на пачатку XVII ст. часта атаясамлівалася толькі з адным прозьвішчам — Кунцэвіч. Кампанія супраць полацкага архібіскупа з боку ворагаў еднасьці Царквы імкліва прымала стратэгічны характар. Мела яна сваіх «герояў» і сваю ганебную гісторыю. Гэта прывяло да хваляваньняў у краіне. Кампрамісу ў дзеяньнях на карысьць супакою дамагаўся ад біскупа нават вялікі канцлер Леў Сапега.

Сьвяты Язафат ужо тады меў перакананьне, якое праз стагоддзі паўтарыў II Ватыканскі Сабор: супакой — гэта ня стан грамадзства, у якім няма вайны, супакой — гэта справядлівасьць.

Уводзячы на беларускіх землях Унію, уладыка Язафат, як кажуць факты, не шкадаваў ні сябе, ні іншых. Яму супрацьстаялі аб'яднаныя ў брацтвы праваслаўныя месьцічы, якіх падтрымлівала яшчэ праваслаўная шляхта. Гэты канфлікт небясьпечна абвастрыў канстантынопальскі Патрыярх, які ў 1620 годзе, вяртаючыся з Масквы праз нашу краіну, паставіў на ўжо занятыя вуніятамі япархіі праваслаўных біскупаў.

Увосень 1623 года архібіскуп Язафат Кунцэвіч прыехаў у Віцебск, каб уціхамірыць места, разьвярэджанае сваім супернікам, праваслаўным архібіскупам Мялетам Смятрыцкім, які адлучыў

Уладыку Язафата ад Царквы. Гэта было яго апошняе падарожжа. 12 лістапада ўзброены натоўп змоўшчыкаў напаў на архібіскупаў дом каля царквы Багародзіцы. Ранішняя Літургія, а потым — крык раз'юшанага натоўпу, які ўварваўся ў біскупскую рэзідэнцыю. Насустрач ім архібіскуп выйшаў сам са словамі: «Дзеці мае, чаму вы напалі на мой дом?». Як сьведчаць судовыя дакументы, забойцы двума ўдарамі бердыша расьсеклі Ўладыку галаву, а потым «доўга нявечылі яго і пасля сьмерці». Цела Язафата скінулі з Прачысьценскай гары, а затым, прывязаўшы да ног і шыі цяжкія камяні і насыпаўшы каменьня ў валасяніцу, утапілі ў Дзьвіне.

Паданьне сьцьвярджае, што Ўладыку знайшлі па снопе сьвятла, якое ішло проста з ракі. Парэшткі архібіскупа пасьля ўрачыстага адпяваньня пахавалі ў Полацкім Сафійскім саборы, але потым іх неаднаразова перазахоўвалі ў Беларусі і па-за яе межамі.

Працэс захадаў да беатыфікацыі сьв. Язафата пачаўся ў наступны год па яго сьмерці. Працэс працягнуўся пры ўдзеле створаных па вызначэньні Урбана VIII (двойчы, у 1625 і 1635 гг.) камісій для даследаваньня жыцьця, дзейнасьці, сьмерці Язафата Кунцэвіча і цудаў, зьвязаных з яго апякунствам. Першая камісія працавала ў 1628 г. пад старшынствам полацкага архібіскупа Антонія Сялявы, другая, што паўстала ў выніку рымскай місіі галіцкага біскупа Корсака. Вынікам працы другой камісіі, якая засьведчыла выразнае складаньне элементаў культу, была беатыфікацыя Язафата Кунцэвіча Папам Урбанам VIII 16 траўня 1643 г. Днём памяці прызначаны дзень сьмерці мучаніка Язафата — 12 лістапада.

Аглядзеўшы труну 21 жніўня 1637 г., камісія сярод іншага зафіксавала: над надтрунным плітой — вялікі абраз сьвятога, на якім ён адлюстраваны ў пантыфікальных шатах, а вакол сярэдніка абраза — дванаццаць сцэнаў жыцьця і пакутаў. Характэрным элементам культу можна прызнаць наяўнасьць пры абразе залатых, срэбных і васковых вотаў, а адбіткам шляхецкіх традыцый — прысутнасьць двух гербавых картушаў з выявай белай ружы, герба Кунцэвіча.

***

Лютае забойства біскупа ў Віцебску было толькі пачаткам жорсткай барацьбы, што вякамі нішчыла справу Уніі на нашай зямлі. Праз дваццаць пяць гадоў сваё жыцьцё за вернасьць адзінаму Касьцёлу аддаў Андрэй Баболя. Пад гнётам царскага рэжыму і надалей будзе гінуць Унія. Вернікаў грэка-каталіцкіх прыходаў часьцей за ўсё цэлымі прыходамі далучалі да Праваслаўнай Царквы. Вельмі нямногія мелі магчымасьць захаваць еднасьць з Папам Рымскім, прыняўшы лацінскі абрад. У 1839 г. расейскі цар Мікалай I афіцыйна забараніў Унію. Спроба адрадзіць грэка-каталіцкую Царкву ў Заходняй Беларусі ў міжваенны час таксама пацярпела паразу, бо надышоў час савецкай улады, якая ўсе рэлігійныя пытаньні вырашала аднолькава.

Няхай сьвяты Язафат, мучанік нашай зямлі, апякуецца намі і навучыць нас быць вернымі адзінай, непадзельнай Хрыстовай Царкве.



а. Аляксандр МЕШЧАНОВІЧ, OCD

# Сьвяты Рафал Каліноўскі: у стагоддзе сьмерці 1907 – 2007

***15 лістапада 2007 г. мінула 100 гадоў ад сьмерці Язэпа (Юзафа) Каліноўскага, вялікага патрыёта, найперш грамадзкага і палітычнага дзеяча, зьвязанага з Беларусьсю, а пасьля манаха імем Рафал, сьвятога Каталіцкай Царквы (Рэд). Ніжэй увазе чытачоў прапануем скарочаны тэкст артыкулу** Зямная дарога да неба**, якi быў зьмешчаны ў часопісе «Дыялог» №11/2007, стар. 14-15.***

## МАЛАДОСЬЦЬ

Юзаф Каліноўскі нарадзіўся ў Вільні 1 верасьня 1835 года ў інтэлігенцкай сям'і, шляхецкага паходжаньня Андрэя Каліноўскага і Юзэфы Палонскай. Праз восем дзён пасьля нараджэньня Юзаф быў ахрышчаны ў парафіяльным касьцёле сьв. Яна ў Вільні, сакрамант хросту ўдзяліў кс. Францішак Бітовтт, хроснымі бацькамі былі Юзаф Палонскі і Дарота Цымерман

Калі Юзафу споўнілася 8 гадоў, у 1843 г., разам з братам Віктарам распачаў вучобу ў Шляхецкм інстытуце ў Вільні. Будынак знаходзіўся ў былым Калегіуме Айцоў Піяраў.



Пасьля заканчэньня Шляхецкага інстытуту Юзаф сур'ёзна пачынае думаць пра сваё будучае жыцьцё. Трэба было выбіраць такі накірунак вучобы, каб забясьпечыць самастойнае існаваньне. Таму шаснаццацігадовы Юзаф і яго старэйшы брат Віктар у 1850 годзе распачынаюць вучобу ў Агранамічным інстытуце ў Горы-Горках (каля Магілёва — *Рэд.*).

Аднак Юзафу не падабаецца сьпецыяльнасьць агранома. Па гэтай прычыне ён распачынае ў 1855 годзе вучобу ў Ваеннай Інжынернай Акадэміі ў Пецярбурзе. Пасьля двухгадовага навучаньня ён атрымоўвае званьне лейтэнанта і інжынера. У кастрычніку Юзафа Каліноўскага пераводзяць працаваць у Брэст, дзе ён працуе пры будове брэсцкай крэпасьці. Тут ён клапоціцца пра моладзь і вязьняў. Доўгімі зімовымі вечарамі ён чытаў кнігі і разважаў над імі. Сваё духоўнае перамяненьне ён прыпісвае «Споведзі» сьв. Аўгустына. Ягоны сябра, малады паляк падарыў яму свой малітаўнік, які дапамог ямуаднавіць у сабе даўнюю любоў да Маці Божай.

## КАТАРЖНІК І ПАСЯЛЕНЕЦ

За ўдзел у паўстаньні ў Літве (паўстаньне Кастуся Каліноўскага 1863-64 г. — *Рэд.*) ў адзеньні арыштанта, астрыжаны і агалены, ішоў разам з іншымі праз вуліцы горада да чыгуначнай станцыі, адкуль паэтапна вязьні павінны былі быць перакінутыя на далёкі ўсход. Юзаф Каліноўскі ўвайшоў у сваю духоўную ноч, якая доўжылася з перарывамі дзесяць год. Як напіша пазьней ён у сваіх успамінах, цемра і раз'юшанасьць не парушалі спакою ягонага сэрца.

У чэрвені 1866 года з наступленьнем амністыі, пяцьдзесят чалавек, у тым ліку і Юзафа, вызвалілі з катаргі. Цяжкія работы былі заменены пасяленьнем. У ліпені 1868 года наступная амністыя дазволіла Юзафу пасяліцца ў любым горадзе Сібіры. Ён выбраў Іркуцк па прычыне парафіі і асобы кс. Шверніцкага. Там праводзіў катэхезу і апекаваўся праблемнымі дзецьмі. На пасяленьні ў Іркуцку ён прабыў чатыры гады — гэты перыяд яшчэ больш узмацніў у ім сьвятарскае пакліканьне.

Перад Божым Нараджэньнем 1873 года ўлады Пецярбурга зацьвердзілі ягонае вызваленьне са ссылкі, афіцыяльны ліст улад ён атрымаў у лютым наступнага года.

* * *

*Сіла волі і моц духа Каліноўскага –піша пра пэрыяд ссылкі ў жыцьці Язэпа а. Аркадзь Куляха — былі для таварышаў нядолі палёгкай і апорай. Ён дапамагаў ссыльным вырашаць розныя праблемы, для дзяцей і моладзі арганізоўваў нядзельныя школы, дзяліў свой хлеб з іншымі. Усе бачылі ў ім увасабленьне справядлівасьці, стойкасьці і вернасьці.*

*«Сьвет можа мяне пазбавіць усяго, аднак застанецца адно сховішча, не адступнае яму, — малітва. У ёй можна зьмясьціць мінуўшчыну, сучаснасьць і будучыню ў постаці надзеі. Божа, якім скарбам надзяляеш тых, хто Табе даверае»* (З лістоў Рафала Каліноўскага)

## ВЫХАВАЎЦА

Вясной 1874 года Юзаф Каліноўскі накіраваўся ў Варшаву. Ён затрымаўся ў свайго брата Габрыэля, дзе з акна меў агляд даўняга касьцёла кармэлітаў босых. Чытаючы дзёньнік кс. Пятра Скаргі, ён даведаўся пра ўсходнія пачаткі гэтага ордэна Маці Божай з гары Кармэль, а потым аб перанясеньні на Захад. Менавіта гэты ордэн ён бачыў як адзін з інструментаў зьяднаньня паміж Касьцёлам Захаду і Усходу. Ён добра адчуваў сябе ў выхавацельскай дзейнасьці. Такім чынам згадзіўся і прыняў прапанову на выхаваньне сына графа Уладзіслава Чартарыскага ў Парыжы. Займаўся гэтай дзейнасьцю да 1877 года.

## КАРМЭЛІТ

Юзаф Каліноўскі прыбыў у дом навіцыяту ў Грац (Аўстрыя) падчас вігіліі патранальнага кармэліцкага сьвята — Маці Божай з гары Кармэль — 15 ліпеня. Пасьля чатырох месяцаў пастуляту 26 лістапада 1877 года атрымаў законны габіт і імя брат Рафал ад сьв. Юзафа. Распачаў гадавы кананічны навіцыят пад кіраўніцтвам суровага магістра а. Тэрэзіуша. Склаў шлюбы 26 лістпада 1878 года і быў пераведзены з Граца ў Рааб у Венгрыі, на навучаньне філасофіі.



Пасьля трох гадоў навучаньня, 27 лістапада 1881 года склаў урачыстыя вечныя шлюбы ў рукі генерала Ордэна кармэлітаў босых, а на наступны дзень выехаў у Кармэль у в. Чэрна каля Кракава. 8 студзеня 1882 года атрымаў пасьвячэньні дыяканату, а праз тыдзень — сьвятарства. У гэтым жа годзе быў менаваны настаяцелем кляштару ў Чэрнай, візітатарам кармэлітак босых, спаведнікам.

Сьвяты Рафал Каліноўскі памёр 15 лістапада 1907 г. у Вадаві-

цах у апініі сьвятасьці, а пахаваньне цела сьвятога адбылося на манаскіх могілках у Чэрнай. 22 чэрвеня 1983 г. Папа Ян Павел II беатыфікаваў Рафала Каліноўскага, а 17 лістапада 1991 г. адбылася кананізацыя сьвятога.

* * *

*Айцец Рафал Каліноўскі гарэў вялікай любоўю да Касьцёла і прагнуў яго еднасьці, таму ў сваіх малітвах прасіў Бога аб паяднаньні паміж хрысьціянамі і да такой малітвы заахвочваў іншых. Ён ведаў дасканала як праваслаўных, так і пратэстантаў. Дарэчы, можна меркаваць, што свае экуменічныя імкненьні фарміраваў ужо ў дзяцінстве падчас сваіх побытаў у родных у Беларусі. У нейкім сэнсе з інтэнцыяй прысьвяціць сябе дзеля яднаньня хрысьціян уступіў у Кармэль, у якім дзейнічаў як шанавальнік Маці Божай, асабліва ў знаку шкаплера.* (а. Аркадзь Куляха, OCD)

* * *

*«Імкненьне чалавецтва — гэта пошук праўды, дабрыні і прыгажосьці. На гэтым полі працы сустракаюцца старажытныя і сучасьнікі, язычніцкія і хрысьціянскія мысьліцелі. Не знаходзячы поўні праўды, дабра і прыгажосьці, язычнік і хрысьціянін шукаюць гэтай паўнаты ў адной крыніцы — у Богу: язычнік зводзіць багоў на зямлю, хрысьціянін сам імкнецца ў неба. Гамер і Дантэ»* (3 лістоў Рафала Каліноўскага, Іркуцк: 10 студзеня 1869 г.)

# Шляхам Берасьцейскай Уніі

***У горадзе Супрасьль, што на Беласточчыне, у днях 20-21 кастрычніка 2007 г. адбылася Міжнародная канферэнцыя «Шляхам Берасьцейскай Уніі». Форум, арганізаваны навуковым таварыствам «Collegium Suprasliense» (а асабліва дзякуючы намаганьням яго старшыні магістра Радаслава Дабравольскага), сабраў навукоўцаў з Польшчы, Беларусі, Літвы, Украіны і Расеі. Ганаровы патранат над канферэнцыяй прыняў Беластоцкі рыма-каталіцкі Мітрапаліт Архібіскуп Эдвард Азароўскі, а таксама Ваявода Падляскі Дар'юш Пянткоўскі. Беларускую Грэка-Каталіцкую Царкву прадстаўлялі Апостальскі Візататар Архімандрыт Сяргей Гаек і а. магістр Андрэй Крот, душпастыр Гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі. Даклад а. магістра Яўгена Усошына з Менску, які не змог прыехаць на канферэнцыю, прачытаў семінарыст Андрэй Гайдукевіч — гісторык па адукацыі.***



Старажытны Супрасьль нездарма стаў месцам правядзеньня падобнай сустрэчы. Тут у XVII-XVIII ст. знаходзіўся адзін з найбуйнейшых інтэлектуальных цэнтраў Грэка-Каталіцкай Царквы — Супрасльскі базыльянскі манастыр. У друкарні, якая была заснаваная пры ім у 1695 годзе, сьвет убачыла каля 500 назоваў кніг рэлігійнага і сьвецкага зьместу, сярод якіх каля 100 кірылічных выданьняў, у тым ліку «Собрание припадков краткое» — першы падручнік тэалогіі на старабеларускай мове, першы славяна-польскі друкаваны «Лексікон», першы кірылічны помнік нотадрукаваньня ў зборніку «Пасьледваньне пострыгу». Калі пасля трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай у 1795 годзе Супрасьль адышоў да Прусіі, тут была створаная грэка-каталіцкая япархія, якая праіснавала, на жаль, толькі да 1809 году. Заняпад манастыра пачаўся пасля таго, як манахі падтрымалі паўстаньні 1794 і 1830-31 гадоў. Сёньня супрасьльскі манастыр належыць Польскай Праваслаўнай Царкве.

Удзельнікі канферэнцыі «Шляхам Берасцейскай уніі» прадставілі шэраг дакладаў, якія датычылі гісторыі Ўніяцкай Царквы, яе ўкладу ў развіцьцё культуры і эканомікі Рэчы Паспалітай і яе сучасных нашчадкаў — Польшчы, Беларусі і Украіны. Шырока прадстаўленай у дакладах навукоўцаў была беларуская тэматыка. Д-р. Маргарыта Корзо з Масквы ў сваім дакладзе «Берасьцейская унія і катэхетычная літаратура: некалькі заўвагаў у справе ўніяцкай тэалогіі XVII-XVIII стагоддзяў» паказала развіцьцё катэхетычнай літаратуры на Беларусі пасля падпісаньня Уніі. Рэферат д-ра Пшэмыслава Баровіка з



Монек быў прысьвечаны стану Ўніяцкай Царквы ў Гародні ў другой палове XVIII стагоддзя і паказаў заняпад уніяцкіх парафіяў, выкліканы не толькі зьнешнімі фактарамі (войнамі ці прымусовым пераводам у іншыя канфесіі), але і нізкаю самасьвядомасьцю саміх уніятаў, якія ў мяшаных шлюбах часта выбіралі рыма-каталіцтва.

Супрацьлеглую сітуацыю паказаў д-р. Вальдэмар Вільчэўскі, даследваньне якога датычыла стану рыма-каталіцкай Царквы ва ўсходніх рэгёнах Беларусі, што належалі да Віленскай дыяцэзіі. Тут рыма-каталікі, якія знаходзіліся ў меншасьці адносна ўніятаў, лёгка паддаваліся ўплывам апошніх і практыкавалі ва Ўніяцкай Царкве.

Цікавым было даследваньне філолага Сяргеюса Тэмчынаса з Вільні «Руская (простая) мова ва ўніяцкіх літургічных кнігах», аднак аўтар не канкрэтызаваў, што ён разумее пад рускаю альбо простаю моваю. Сярод іншых выступаў варта ўзгадаць даклады Пшэмыслава Чыжэўскага «Уніяцкая Царква ў Гарадзенскім павеце ў канцы XVIII стагоддзя ў сьвятле фінансавых крыніцаў» і Радаслава Дабравольскага «Уніяцкія школы ў Берасьці Літоўскім (XVII-XIX ст.)». Айцец прафесар д-р. габілітаваны Міхал Яноха прадставіў даклад, прысьвечаны ўніяцкім іконам, падставаю якога сталіся пераважна абразы з Беларусі.

Канферэнцыя паказала вялікую цікавасьць сярод гісторыкаў да праблематыкі Ўніяцкае Царквы. На жаль, беларуская ўніяцкая спадчына становіцца апошнім часам прадметам даследваньня пераважна замежных гісторыкаў.

*а. Андрэй Крот*

# 50-гадовы юбілей італійскага духовага цэнтра «Russia Cristiana»

Духовы цэнтр (і зьвязаны з ім Фонд) «Russia Cristiana» быў заснаваны ў Італіі ў 1957 г. З нагоды 50-гадовага Юбілею яго заснаваньня 20-21 кастрычніка 2007 г. у мястэчку Серыятэ, непадалёк ад Бергама, праходзіла Міжнародная канферэнцыя.

Заснаваньне Цэнтра і ўся яго дзейнасьць зьвязана з асобай каталіцкага сьвятара мітрафорнага протаярэя Рамана Скалфі (якому сёлета споўнілася 84 гады), які разам са сваімі супрацоўнікамі і аднадумцамі браў удзел у канферэнцыі. Цягам 50 гадоў Цэнтр, у духу экуменічнай салідарнасьці, знаёміў хрысьціянаў Захаду з усходняй традыцыяй і жыцьцём хрысьціянаў у Савецкім Саюзе. Ён нёс таксама падтрымку вернікам Расеі і Беларусі пасьля разпаду СССР. Да сёньняшняга дня Цэнтр «Russia Cristiana» супрацоўнічае з беларускім праваслаўным Хрысьціянскім Адукацыйным Цэнтрам імя сьвятых Мятода і Кірыла ў Менску.

Свае прывітаньні з нагоды Юбілею даслалі: Старшыня Папскай рады па справах садзейнічаньня хрысьціянскай еднасьці кардынал Вальтэр Каспер, архібіскуп Міланскі кардынал Дыяніджы Тэтаманцi, а таксама Апостальскі Нунцый у Расеі архібіскуп Антоніо Меннiні.

Тэма канферэнцыі: *Russia Cristiana» — заклік да еднасьці. 1957 — 2007: 50 гадоў гісторыі.* Арганізатары не імкнуліся чытаць даклады — галоўнай тэмай дыскусій стала размова аб еднасьці Царквы, аб тым «скарбе адзінства, розуму і творчасьці, якія дазволілі Расеі і Еўропе пераадолець таталітарызм ХХ стагоддзя», — як было адзначана ў прэс-рэлізе.

Вялікую ўвагу ўдзельнікі сустрэчы надалі пакутнікам савецкіх часоў. Шэраг дакладаў на канферэнцыі быў прысьвечаны тэме рэпрэсіяў у СССР. Прадстаўнік аб'яднаньня «Мемарыял» сп. Арсеній Рагінскі заявіў, што сапраўдная памяць аб мільёнах ахвяраў савецкага тэрору, да канца не вывучаная ў гады «перабудовы», зараз адыходзіць на другі план. У сёньняшняй Расеі, дзе дзяржава клапоціцца аб пабудове так званай «мадэлі гераічнай ідэнтычнасьці» гісторыі, памяць аб ахвярах не можа быць патрэбнай. Аўдыторыю ўразілі лічбы: з 12,5 млн ахвяраў дзяржаўнага тэрору з 1917 да 1953 гг. вядомыя імёны толькі 2,5 млн.

# 90 гадоў Папскага Ўсходняга Інстытуту «Orientale» ў Рыме

9 лістапада 2007 г. ў Папскім Усходнім Інстытуце «Orientale» ў Рыме, з нагоды 90 год яго дзейнасьці, праходзіў міжнародны Сімпозіюм пад тытулам «Ад Бенядыкта XV да Бенядыкта XVI».

Вялікі Канцлер Папскага Усходняга Інстытуту, Прэфэкт Кангрэгацыі Усходніх Цэркваў — архібіскуп Леанард Сандры (які будзе пастаўлены кардыналам на кансісторыі 25 лістапада 2007 г.), ва ўступнай прамове падкрэсьліў, што 90-годдзе Інстытуту супадае з 90-годдзем самой Кангрэгацыі, створанай за некалькі месяцаў перад тым папскім дакументам motu proprio *Dei Providentis*. Ён нагадаў сказанае Папам Бенядыктам XVI падчас яго наведваньня Кангрэгацыі, што «спадчына годных традыцыяў хрысьціянскага Ўсходу не павінна разглядаццца толькі як музэйная каштоўнасьць». Уладыка Леанард асабліва падкрэсьліў саюз паміж хрысьціянскім Усходам і культурай, працытаваўшы ў сувязі з гэтым Апостальскае Пасланьне Яна Паўла II *Orientale lumen*.

Пасьля прывітаньня айца Кірыла Васіля, рэктара Інстытуту, праф. Канстантын Сайман, сябра Таварыства Ісуса, прачытаў даклад «Палітыка Царквы Бенядыкта XV ў адносінах да Ўсходу і яе адлюстраваньне пры заснаваньні Папскага Ўсходняга Інстытуту». Яшчэ адзін прамоўца, езуіт праф. Эдвард Фарруджыя, раскрыў тэму «Павага Бенядыкта XV да ўсходняга багаслоўя пры заснаваньні Папскага Ўсходняга Інстытуту».

На Сімпозіюме прысутнічалі кардыналы: Патрыярх Ігнат-Майсей I Дауд і Тамаш Шпідлік, выкладчыкі і студэнты Інстытуту, шматлікія госьці.

Сакратарыят Апостальскага Візітатара БГКЦ Архімандрыта Сяргея Гаека (які зьяўляецца доктарам усходніх царкоўных навук Папскага Інстытуту «Orientale») прадстаўляў на Сімпозіюме а. д-р Пётр Смалінскі, адказны ў тым жа Сакратарыяце за Сэктар Тэалагічных Студыяў.

# 498 новамучанікаў гішпанскіх

*Заканчэньне са с.7*

Як вынік — ужо ў першай палове траўня 1931 г. у Мадрыдзе, Алікантэ, Севільі, Валенсіі, Мурсіі, Малазе, Кадзісе адбываліся гвалтоўныя, скіраваныя супраць духавенства, маніфестацыі, напады на царкоўныя будынкі, падпалы і грабяжы храмаў і манастыроў. Пасьля справа дайшла да забойстваў сьвятароў і манахаў.

Шматлікія пратэсты супраць левага ўраду прывялі ў 1936 г да. грамадзянскай вайны. Адразу пасьля яе пачатку радыкальныя сацыялісты, анархісты і камуністы распачалі адкрыты перасьлед Каталіцкай Царквы. Уся Гішпанія была залітая крывёю забітых біскупаў, сьвятароў, манахаў, манахінь, сьвецкіх католікаў. Непасрэдны перасьлед закрануў дзясяткі тысячаў вернікаў.

Матывам рэпрэсій не былі палітычныя перакананьні рэпрэсаваных асобаў, а толькі нянавісьць, якую каты мелі ў адносінах да рэлігіі, хрысьціянскай веры, Каталіцкай Царквы і Бога. Перасьлед хрысьціянаў у Гішпаніі характарызаваўся асаблівай жорсткасьцю. Амаль усім выпадкам забойстваў папярэднічаў фізічны і псіхалагічны гвалт. Зьвязаныя з камуністамі сілы зьнішчалі ўсё, што мела хоць якую-небудзь сувязь з Каталіцкай Царквой. Рабаваліся, спальваліся і разбураліся цэрквы, манастыры, духоўныя семінарыі і сядзібы каталіцкіх супольнасьцяў. У перасьледзе Каталіцкай Царквы гішпанскім рэвалюцыянерам дапамагалі савецкія камуністы і міжнародныя брыгады. Х'ю Томас, аўтар кнігі пра грамадзянскую вайну ў Гішпаніі, сьцвярджае: «Магчыма, ні ў адну іншую эпоху гісторыі Еўропы, а, можа, і сьвету, не праяўлялася такая нянавісьць да рэлігіі і да ўсяго, што мела да яе якое-небудзь дачыненьне».

Падчас перасьледу Царквы ў Гішпаніі у 30-я гады XX стагоддзя мучаніцкую сьмерць прынялі 6832 духоўныя асобы. Сярод іх было 4184 дыяцэзіяльныя сьвятары, 13 біскупаў; 2365 манахаў і 238 манахінь. Гэта складала 13 адсоткаў ад усяго дыяцэзіяльнага духавенства і 23 адсоткі манаскага духавенства. Трэба ўзгадаць, што 11 сакавіка 2001 г. Сьвяты Айцец Ян Павел II узьнёс да славы алтара 233 духоўныя і сьвецкія асобы, якія загінулі за веру падчас перасьледу Каталіцкай Царквы ў Гішпаніі ў 1936–1939 гадах.

*Паводле Catholic.by*

# Хрысьціянскія Цэрквы Беларусі ў малітве і пакаяньні ўзгадалі ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў 1937 г.

***29 кастрычніка б.г. мінула 70 гадоў ад часу сталінскіх рэпрэсіяў у Беларусі 1937 году, скіраваных супраць эліты народу: дзеячаў навукі і культуры, духавенства розных веравызнаньняў, патрыётаў і звычайных жыхароў. Вынікам гэтага тэрору было зьнішчэньне або ссылкі ў лагеры 90% беларускай інтэлігэнцыі ды 100% духавенства.***



На працягу 15 месяцаў, паміж жніўнем 1937 і сьнежнем 1938 году, на тэрыторыі ўсходняй Беларусі арыштавана і растраляна больш за 10 тысяч чалавек. Толькі падчас адной ночы 29-30 кастрычніка 1937 году, і толькі ў Менску, у вязьніцы НКВД, расстраляна больш за 100 асобаў.

Для ўшанаваньня ахвяраў гэтага жахлівага генацыду год 2007 абвешчаны Годам Памяці, а 29 кастрычніка — ўсеагульным Днём Памяці.

Хрысьціянскія Цэрквы ў Беларусі ў разнастайны спосаб адзначалі трагічныя даты 1937 году.

Грэка-каталікі Беларусі ўзгадвалі ахвяраў сталінскага генацыду ў Велікодны час (у тым ліку на Радаўніцу), а таксама падчас XIII штогадовай Пілігрымкі Віцебск-Полацак. На завяршэньне яе 15 ліпеня Апостальскі Візітатар Беларускай Грэка-Каталіцкай Царквы Архімандрыт Сяргей (Гаек) зьвярнуўся да вернікаў з адмысловым Словам, у якім між іншым напісана: *«Разам з хрысьціянамі іншых канфесій узгадваем гэтыя ахвяры перад Уваскрослым Госпадам і хочам маліцца аб дары вечнага супакою для іх душаў, а для нас усіх — аб ласцы быць мужнымі сьведкамі Уваскрослага Хрыста ў Беларусі 2007 году»*.

Асаблівым Днём памяці і малітвы для рыма-каталікаў быў дзень 26 жніўня 2007 году, у які згадвалася мучаніцкая сьмерць у менскай вязьніцы НКВД апошніх каталіцкіх сьвятароў у Менску. Гэта былі ксяндзы: Станіслаў Райка — адміністратар парафіі сьв. Барбары ў Віцебску, Пётр Януковіч — душпастыр парафіі ў Гомелі, Ян Баравік — пробашч парафіі Сьвятой Тройцы на Залатой Горцы ў Менску, Пётр Аўгла — душпастыр у Магілёве. 26 жніўня 2007 г. Апостальскі Адміністратар Мінска-Магілёўскай Архідыяцэзіі Уладыка Антоній Дзям'янка адслужыў памінальныя службы ў некаторых менскіх касьцёлах, у якіх служылі рэпрэсаваныя сьвятары.

Беларускія пратэстанты (асабліва хрысьціяне Веры Евангельскай і хрысьціяне Поўнага Евангельля) наладзілі ў рамках Году Памяці сьпецыяльную міждэнамінацыйную душпастырскую акцыю «Шлях пакаяньня», у рамках якой абвясьцілі нядзелю 28 кастрычніка Днём пакаяньня за грахі камунізму. Да гэтай ініцыятывы далучыліся ў Менску і каталікі абодвух абрадаў (візантыйскага і лацінскага), а таксама некаторыя групы праваслаўных вернікаў.

У сам Дзень Памяці — 29 кастрычніка 2007 г. ва ўрочышчы Курапаты (што пад Менскам), дзе спачывае каля 300 тысячаў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў, грэка-каталіцкімі сьвятарамі была адслужана Паніхіда, у якой удзельнічалі вернікі розных канфесіяў.

У Гарадзенскай грэка-каталіцкай парафіі ў гэты дзень Боская Літургія была адслужаная за нявінна загінуўшых дзеячаў беларускай культуры, расстраляных 29-30 кастрычніка 1937 г.

Малітоўныя ўспаміны ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў адбыліся і ў іншых месцах Беларусі з нагоды сьвята Дзядоў 2 лістапада, а таксама Зьмітраўскай бацькоўскай суботы, калі праваслаўныя хрысьціяне моляцца за памерлых.

У грэка-каталіцкім царкоўным календары дзень 1 лістапада — гэта літургічны ўспамін мучаніцтва сьвятамучаніка Тэадора (Ромжы), біскупа Мукачаўскага, замучанага ўкраінскім НКВД. На запрашэньне Апакрызара (афіцыйнага прадстаўніка) Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы ў Рыме Уладыкі Глеба (Ланчыны) Апостальскі Візітатар для грэка-католікаў Беларусі Архімандрыт Сяргей (Гаек) разам з групай беларусаў, што знаходзіліся ў той час у Рыме, 1 лістапада 2007 г. ў рымскім украінскім саборы Сьвятой Сафіі ўдзельнічаў у Боскай Літургіі і Парастасе, у якіх згадвалася мучаніцтва Блаславёнага Тэадора і таксама ахвяры камуністычнага тэрору ва Ўкраіне і Беларусі.

Для грэка-католікаў Беларусі яшчэ адной нагодай узгадаць усіх пакутнікаў — ахвяраў бальшавіцкіх рэпрэсіяў, якія пачаліся ўжо ў 1918 г., стала ўрачыстасьць Сьвятамучаніка Язафата 12 лістапада. У казаньні падчас сьвяточнай Боскай Літургіі ў Віцебску, у касьцёле Сьвятога Духа, якую саслужылі сьвятары візантыйскага і лацінскага абрадаў, Архімандрыт Сяргей зазначыў: *«На шляху мучаніцтва, на які на Беларускай зямлі ўвайшоў і сьвяты Архібіскуп Полацкі Язафат, сустракаем у гэтыя дні ўсіх бязьвінных ахвяраў мінулага стагоддзя, асабліва ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў, што ў 1937 годзе мелі свой пік. Няхай сьвяты Мучанік Язафат выпрасіць нашаму народу дар пакаяньня за ўсе злачынствы камуністычнай сістэмы на беларускіх землях. А Маці Божая, ад часу З'яўленьняў Якой у Фаціме спаўняецца 90 гадоў, няхай нас суправаджае сваімі малітвамі на шляху пакаяньня»*.

*а. Андрэй Буйніч*

# АДНА НОЧ 1937 г.




Уначы 29/30 кастрычніка 1937 году (г. зн. 20 гадоў пасьля Кастрычніцкай рэвалюцыі) ў Менску адбылася акцыя, падобных якой, бадай, не было ў гісторыі чалавецтва. На працягу адной толькі ночы — самай страшнай ночы ў беларускай культурнай гісторыі — у сутарэньнях унутранай турмы НКВД было расстраляна дзясяткі беларускіх пісьменьнікаў, дзяржаўных і грамадзкіх дзеячаў, навукоўцаў. Ахвярам гэтай ночы Леанід Маракоў прысьвяціў сваю навую кнігу:

*Маракоў, Л. У. Толькі адна ноч. 29 кастрычніка 1937 года / Маракоў Леанід. — Мінск: Зміцер Колас, 2006. — 176 с. [Наклад 50 асобнікаў].*

У кнізе Леаніда Маракова падаюцца біяграфічныя дадзеныя ахвяраў, вытрымкі з асабовых справаў, апісваюцца лёсы сваякоў. Асобную частку кнігі пад назвай «Яны вынішчалі нашых продкаў» складаюць зьвесткі пра тых, хто ўчыніў гэтае страшнае злачынства.

Яскравай ілюстрацыяй зьяўляюцца цытаты, якія мы прыводзім ніжэй (захоўваем арфаграфію арыгінала).

* * *

«У Архіве прэзідэнта Расійскай Федэрацыі (АП РФ, вопіс № 24, справа № 411*) захоўваецца «Список лиц, подлежащих суду военной коллегии Верховного суда Союза ССР». У спіс уключаны «ворагі народа» з усяго Савецкага Саюза ад Далёкаўсходняга краю да Калінінградскай вобл., ад паўночнай ледзяной Комі АССР да сонечнай курортнай Крымскай АССР. Спіс датаваны: **7 верасня 1937 года.** І падпісаны І. Сталіным, В. Молатавым, К. Варашылавым, М. Яжовым. Спіс асуджаных па першай катэгорыі (да вышэйшай меры пакараньня — расстрэлу) па Беларускай ССР налічвае 103 чалавекі, па другой катэгорыі (прыговораны да 10 і больш гадоў зняволення ў канцлагерах) — 6.

Спіс па Беларускай ССР датаваны **15 верасня 1937** і падпісаны І. Сталіным, В. Молатавым і начальнікам 8 аддзела Галоўнага ўпраўлення дзяржаўнай бяспекі СССР старшым маёрам дзяржаўнай бяспекі У. Цэсарскім».

* * *

«У тым юбілейным для бальшавікоў 1937-м, калі іх гвардзейцы-энкавэдысты пачалі татальнае вынішчэнне інтэлектуальнай беларускай эліты, толькі за тры восеньскія месяцы пачварамі таталітарнага рэжыму было рэпрэсавана больш за 500 грамадскіх і культурных дзеячаў Беларусі.

Рэпрэсаваны... Знайшлі ж бальшавікі слова! Не канкрэтнае — расстраляны або загублены на катарзе, ці замардаваны ў ссылцы, а замежнае, не кожнаму да канца зразумелае — рэпрэсаваны (з лацінскай repressor — падаўленне). Не, гэта было не падаўленне, гэта было вынішчэнне, генацыд супраць беларускага народа!

Першага жніўня 1937 г. на вялікім вогнішчы ў «амерыканцы» энкавэдысты Сакалоў (нам. начальніка Мінскай унутранай турмы НКВД), Абрамчык, Гарбацэвіч вынішчылі — спалілі — некалькі дзесяткаў тысяч (!) рукапісаў беларускіх літаратараў. Гарэлі творы, якія не праскочылі цэнзуру або пісаліся ў стол, для нас, нашчадкаў».

## Тыдзень малітваў за еднасьць хрысьціянаў

**18 — 25 студзеня 2008 г.**

*«Несупынна маліцеся»* (1 Фес 5,17)

Тэмы і біблійныя чытаньні:

**I дзень, Пятніца — 18.01.2008:**
***Несупынна маліцеся*** *(1 Фес 5,17)*
Іс 55,6-9; Пс 34(33); 1 Фес 5,12а.13б-18; Лк 18,1-8

**II дзень, Субота — 19.01.2008:**
***За ўсё дзякуйце Госпаду*** *(пар. 1 Фес 5,18)*
1 Цар (3 Цар) 18,20-40; Пс 23(22); 1 Фес 5,12а.13б-18; Ян 11,17-44

**III дзень, Нядзеля — 20.01.2008:**
***Настаўляйце сваволных, суцяшайце маладушных*** *(1 Фес 5,14)*
Ён 3,1-10; Пс 51(50); 1 Фес 5,12а.13б-18; Мк 11,15-17

**IV дзень, Панядзелак — 21.01.2008:**
***Глядзіце, каб хто каму не плаціў злом за зло; а заўсёды шукайце дабра і адно аднаму і ўсім*** *(1 Фес 5,15)*
Вых 3,1-12; Пс 146(145); 1 Фес 5,12а.13б-18; Мц 5,38-42

**V дзень, Аўторак — 22.01.2008:**
***Будзьце цярплівымі да ўсіх*** *(1 Фес 5,14)*
Вых 17,1-4; Пс 1; 1 Фес 5,12а.13б-18; Лк 18,9-14

**VI дзень, Серада — 23.01.2008:**
***Заўсёды радуйцеся, несупынна маліцеся*** *(1 Фес 5,16-17)*
2 Сам (2 Цар) 7,18-29; Пс 86(85); 1 Фес 5,12а.13б-18; Лк 10,1-24

**VII дзень, Чацьвер — 24.01.2008:**
***Падтрымлівайце слабых*** *(1 Фес 5,14)*
1 Сам (1 Цар) 1,9-20; Пс 86(85); 1 Фес 5,12а.13б-18; Лк 11,5-13

**VIII дзень, Пятніца — 25.01.2008:**
***Жывіце ў згодзе між сабою*** *(1 Фес 5, 13б)*
Іс 11,6-13; Пс 122(121); 1 Фес 5,12а.13б-18; Ян 17,6-24

**Малітва на Экуменічны тыдзень 2008 г.**

Госпадзе еднасьці, Ойча, Сыне і Сьвяты Духу,
несупынна молім Цябе, каб мы маглі быць адно,
як Ты адзіны.
Ойча, выслухай нас, калі мы клічам Цябе, Хрысьце,
вядзі нас да еднасьці, якой Ты хочаш для нас,
Духу Сьвяты, умацуй нашую надзею. Амін.

Падпіска на газету «ЦАРКВА» – добры падарунак Вашым блізкім, сябрам і бібліятэкам. Кошт падпіскі на квартал – 520 руб., на паўгоддзе — 1040 руб.
Наш падпісны індэкс для індывідуальных падпісчыкаў 63205

Царква
грэка-каталіцкая газета
№ 4 (55), 2007
16.10.07 — 31.12.07

Адрас рэдакцыі:
вул.Дворнікава, 63
224014 г.Берасьце (Брэст)
Беларусь
Тэл./факс: (0162) 24-74-82
e-mail: bgkc_carkva@tut.by

**Выдавец:** Грэка-каталіцкая парафія сьвятых братоў-апосталаў
**Пасведчанне аб рэгістрацыі** № 1055 ад 10.04.2006 г.
**Галоўны рэдактар:** а. Ігар КАНДРАЦЬЕЎ
**Царкоўны асістэнт:** Андрэй СІДАРОВІЧ (МІС)
**Адказны рэдактар:** а. Андрэй КРОТ
**Выпускны рэдактар:** Яўген АНДРОСІК
**Падпісана ў друк:** 3 сьнежня 2007 году, а 22-45
**Паліграфічныя работы:** ПП В.Ю.А. (пасьв. №02330/0131540 ад 30.04.04), вул. Мініна, 23-106, 220014 г. Менск, Замова №
Аб'ём — 2,5 ул.-выд.аркушы. Наклад асобнікаў

НАШ РАХУНАК:
№ 3015200210017
у філіяле № 2/01
г.Берасьця
ЗАТ «Абсалютбанк»,
МФО 150501242,
УНП 200558013

Кошт свабодны. Падпісны індэкс 63205. Газета выдаецца і распаўсюджваецца за ахвяраваньні. Шчыра дзякуем усім ахвярадаўцам!